Я трываю... Хочу толькі, каб ён зразумеў, што нельга з чалавекам, які не доктар, але пра тое, як ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, ведае не менш за доктара, гэтак абыходзіцца.

— Я не магу спыніць актыўныя допыты.

Добра, няхай актыўныя допыты, як называюць тут катаванні, спыніць ён не можа, але ж ён доктар, ён даваў клятву Гіпакрата і абавязаны ў любым выпадку быць на маім баку. Угаварыць, упрасіць, каб з мяне знялі кайданкі, адшпілі ад ложка, дазволілі зрабіць хоць некалькі крокаў ад сцяны да сцяны. Але ён нікога не ўгаворвае і не просіць ні аб чым нікога.

— Гэта не ў маёй кампетэнцыі.

У ягонай кампетэнцыі націскаць чырвоную кнопку над сталом — і, як толькі ён тую кнопку націскае, з'яўляецца худая, са шнарам над левым брывом медсястра. Яна моўчкі набірае ў шпрыц нейкай мярзоціны, якую падае ёй доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён у белым халаце, і ён назірае, як медсястра робіць ін'екцыі, пасля якіх пачынаюцца гэткія спазмы, што я страчваю ад болю прытомнасць. Калі ачомваюся, мне спачатку выварочвае вантробы, а пасля перакручвае свядомасць: я раблюся як бы не я — і той, хто не я, нагаворвае на таго, хто я, што заўгодна. Ужо столькі я ўсяго на сябе самога нагаварыў, а ім усё мала, мала, мала, яны мяне катуюць, катуюць, катуюць — і ў іх прэтэнзіі да доктара:

— Вы змяншаеце дозы, доктар!.. Ці ён прывыкае?

Доктар дозы не змяншае, і я не прывыкаю. Да гэтага нельга прывыкнуць. Проста я не разумею, чаго яны хочуць ад мяне, і, падобна, яны ўжо самі не разумеюць гэтага.

І доктар не разумее.

— Чаго вы ўпіраецеся? Выгадная ўмова...

— Якая выгадная?

— Жыццё. Інакш вы сканаць можаце. Для актыўных допытаў ваша здароўе...

Ён пакручвае пальцамі так, што маё здароўе не выглядае прыдатным для актыўных допытаў.

Жыццё сапраўды някепская ўмова. Але чаму яе прапануюць мне яны? Хто яны такія?

— Хто яны такія, — пытаю я доктара, — каб прапаноўваць мне тое, што ўжо без іх даў Бог?

Доктар моршчыцца, ён кожны раз моршчыцца, калі я згадваю Бога. Потым дае мне пігулкі, якія заўсёды дае за паўгадзіны перад кожнай ін'екцыяй, і кажа паблажліва:

— Яны ўлада, якая ад Бога. Значыць, могуць прапанаваць тое самае.

Праз паўгадзіны — чарговы ўкол і допыт. Яны мне па гадзінах, па хвілінах распісалі актыўныя допыты, і самае страшнае — глядзець на гадзіннік, які вісіць над сталом, дзе чырвоная кнопка, і чакаць.

— Гэта мана.

Ён дастае з маленькай лядоўні, з нутра якой даносіцца нечакана моцны для такой малечы гуд, ампулу з мярзоцінай.

— Што мана?

— Што ўлада ад Бога. У аўтэнтычным тэксце Святога Пісання сказана: «Усялякая ўлада пад Богам». Гэта ўжо пры перакладзе папы прыдумалі для цароў, што ўсялякая ўлада ад Яго, а не пад Ім.

Доктар трохі думае пра нешта, потым кажа:

— Па-мойму, там усё ж сказана, што ўлада ад Бога, але гэта не важна. Бог да чалавека як да чалавека ўвогуле адносін не мае. Бо чалавек не чалавек.

Я не разумею: пра што ён?

— А хто?

— Жывёліна. У найпростым сэнсе. І пачакайце пярэчыць!.. Усё вызначаецца механізмамі ўзнаўлення, стварэння сабе падобных. Якія яны ў вас? Гэткія ж самыя, як у любой і кожнай жывёліны. Тады хто вы?..

— А вы?

— А калі вы не чалавек, — доўжыць, як не пачуўшы мяне, доктар, — дык і Бог для вас не Бог. І для іх, — ківае ён на дзверы, за якімі ў чорнай форме і чорных масках стаяць вартавыя. — Так што вы дарма з імі пра Боскі суд. Сорам, сумленне... Ваўку не сорамна зайца зжэрці.

Доктар, вядома, не жывёліна, не з ягонай фанабэрыяй жывёлінай сябе лічыць. Нешта ў ягоным жыцці не склалася, інакш не быў бы ён тут і не займаўся б тым, чым займаецца, праз што стаў звычайным чалавека户ненавіснікам. Але быць проста мізантропам надта банальна, таму ён выдае сябе яшчэ й за цыніка. Філасофствуе.

Усё гэта праз тое, што ён бязбожнік. Але быць проста бязбожнікам гэтаксама банальна, як быць проста мізантропам, таму ён выдае сябе за верніка, які расчараваўся ў хрысціянстве. «Сын Бога, — тлумачыць ён прычыну свайго расчаравання, — не можа быць пакутнікам, які сам цягне свой крыж на Галгофу, каб быць раскрыжаваным за чужыя грахі. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Расчараваўшыся ў хрысціянстве, доктар спавядае індуізм, але не як рэлігію, а як філасофскую сістэму, і трыццаць першую частку трэцяй песні «Бхагавадгіты», прысвечаную рэінкарнацыі, лічыць найлепшым з усіх, якія калі-небудзь былі напісаныя, філасофскім трактатам, бо ў ім вырашаецца праблема суіснавання дабра і зла.

— Калі Бог — любоў і дабро, скуль зло і пакуты? Чаму гінуць дзеці?.. Папы з ксяндзамі выдумляюць такое, чаго самі не разумеюць, бо адказу на гэта няма ні ў Старым, ні ў Новым Запавеце. А ў Ведах ёсць: рэінкарнацыя. За грахі папярэдняга жыцця ў новым жыцці спасцігае кара за іх. Усё лагічна.

У доктара ёсць якасць, уласцівая усім людзям з завышанай самаацэнкай: яны мяркуюць, што ніхто, хто жыў да іх, пра жыццё на гэтым свеце нічога не петрыў.

Вось і пра тое, што напісана пра дабро і зло ў Ведах, доктар распавядае так, нібы сам пра гэта напісаў.

— Бог не ў дзеяннях, а ў іх прычынах.

— Ды кіньце!.. — паклаўшы на стол ампулу, націскае доктар чырвоную кнопку над сталом. — Адзін немец даўно сказаў: «Бог памёр!» Але немец гэты, як і ўсе немцы, паспяшаўся. Бог будзе жыць да той пары, пакуль мы не вызначым крыніцу нашай свядомасці.

Вось з чаго ён узяў, што ўсе немцы спяшаюцца?

— Дык ужо вызначылі. — І я чытаю яму па памяці, так у маіх мазгах ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, што я даслоўна запамінаю тэксты, якія мне зусім без патрэбы: «Меркаванне, што нейроны не здольныя да трансфармацыі і зменаў сувязяў аднаго з адным, абвергнутае. Працэсы зменаў сувязяў зафіксаваныя пакуль на мікраскапічнай частачцы галаўнога мозга, аднак гэтага дастаткова для разумення сутнасці нашай свядомасці».

Я думаю, што гэтага ўсё ж не дастаткова для разумення нашай свядомасці, але доктара раздражняе не тое, што я думаю, а тое, што лезу не ў сваё, таму ён злуе, б'е зверху кулаком па лядоўні — і тая змаўкае.

— Не лезьце не ў сваё!.. Немцы зноў паспяшаліся — вызначанае імі нічога не вызначае! І ні на што не ўплывае! Хіба толькі на экспертаў камітэта па Нобелеўскіх прэміях можа паўплываць. — І кіўнуўшы на трох пахмурных мужчын за дзвярыма, якія адчыніла, уваходзячы, медсястра, ён кажа цішэй: — але не на гэтых таварышаў.

Доктар ведае, што працэс змены сувязяў паміж нейронамі зафіксаваны нядаўна менавіта немцамі, а трое таварышаў, якія ўваходзяць за медсястрой у абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой, дзе мяне трымаюць ужо пятыя суткі, пра тое не ведаюць і ведаць не хочуць. Адзін з іх, таварыш генерал, ківае доктару, той ківае ў адказ, я ніяк не магу зразумець, што азначаюць гэтыя іх кіўкі адзін

аднаму... — а да мяне падыходзяць вартавыя, прыціскаюць да ложка, сястра адломвае кончык ампулы, набірае шпрыц, перацягвае гумовым пасам вышэй за локаць маю правую, якая не ў кайданках, руку, робіць укол — і мяне торгае яшчэ да таго, як у кроў маю пачынае ўлівацца мярзоціна...

— Спакайней, спакайней, — назіраючы, як выціскае апошнія кроплі са шпрыца медсястра, кажа доктар. — Няма чаго торгацца. Так, каб торгацца, яшчэ не баліць.

Я ўжо ведаю, як яно будзе балець, і праз гэтае веданне пачынаю адчуваць боль яшчэ да таго, як ён торгне мяне, скруціць, праб'е ад пятаў да мазгоў, у якіх у чаканні болю панічна пачынаюць мітусіцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны.

Сястра моўчкі выходзіць і зачыняе дзверы. Двое, што ўвайшлі з генералам, старэйшы і маладзейшы, таксама глядзяць на доктара, і ён таксама ім ківае. Я не разумею, што гэта азначае, чаго доктар ківае і генералу, і гэтым двум, але ведаю, што маладзейшы сярод іх усіх насамрэч найстарэйшы. Найгалоўны, бо ён сын таго, які ўсіх іх сюды, у гэтую трупярню, да мяне пасылае.

Мяне прывезлі сюды чатыры дні таму. Уночы, з завязанымі вачыма. Была зіма, і пахаў ніякіх не адчувалася, толькі пах снегу, але, мяркуючы па цішыні, якая напоўніла вушы, калі вывелі з машыны, прывезлі мяне ў лес. Лясная цішыня адрозная ад цішыні рачной ці палявой, я звык іх распазнаваць яшчэ ў дзяцінстве. Толькі ў дзяцінстве я не мог падумаць, пачуўшы лясную цішыню, што мяне ў ёй заб'юць, а тут падумаў, бо на першых допытах у турме, з якой сярод ночы мяне ў лес прывезлі, якраз гэтым палохалі...

Пад рукі мяне павялі прыступкамі ўніз, значыць, у лесе была нейкая будыніна — і калі развязалі вочы, я ўбачыў гэты халодна-голы, абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой. Пасярод яго стаяў ложак; каля адной сцяны з гадзіннікам на ёй — стол, крэсла і

невялічкая лядоўня, а каля другой — штосьці падобнае на яшчэ адзін ложак, аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі, адно з якіх было з гумовай камерай, як для мяча, якім гулялі мы ў дзяцінстве ў футбол. Я вырашыў, што гэта нешта для таго, каб дыхаць, і не памыліўся: аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі ложак аказаўся апаратам для штучнай падтрымкі жыцця.

Яны не давалі тым, каго сюды прывозілі, памерці... Калі нехта не вытрымліваў на ложку пасярод пакоя, яго перакладвалі на ложак каля сцяны. А потым зноў клалі на ложак пасярод пакоя.

Госпадзі, што яны зробяць са мной?..

— У вас няма выбару... — кажа ў каторы раз адно і тое генерал. — Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей, якія дапамагалі вам рыхтаваць дзяржаўны пераварот, мы ўводзім прэпарат — і болю не будзе.

Пераварот, прэпарат... Мне ўжо баліць, а ён: болю не будзе. Што значыць не будзе?.. Яны ўколюць мне нешта такое, ад чаго я сканаю?

— Я не рыхтаваў дзяржаўны пераварот.

— Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей...

Доктар кажа: «У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць. За гэтым парогам — смерць. Спыняецца ад болю сэрца». Ён мог гэтага й не казаць, я кожны раз здзіўляюся, калі боль пачынае спадаць, што сэрца не разарвалася. Я навыдумляў процьму краінаў, ведамстваў і людзей, якія мне дапамагалі, але гэта не тыя краіны, не тыя ведамствы і не тыя людзі — ім патрэбныя іншыя. Я пытаю: «Якія?..» — а яны не кажуць. Бо самі не ведаюць, якія? Яны ўвогуле, падобна, не ведаюць, чаго хоча ад мяне чалавек, які імі кіруе і пасылае іх да мяне.

— У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць, за гэтым парогам смерць, ад болю

спыняецца сэрца, — паўтарае словы доктара сын таго чалавека, наймаладзейшы з гэтых траіх, якіх паслаў ён да мяне. — І паварочваецца да доктара. — Так, доктар?

Доктар у каторы раз ківае: так.

Першы спазм!.. Госпадзі, дай мне не вытрываць, дай мне сканаць!..

Боль невыносны... і доўжыцца, здаецца, з дня, у які я нарадзіўся, і калі гэткія мукі чакаюць нас па смерці за грахі нашы, дык трэба ці не грашыць, ці не паміраць, а я паміраю, пачуў мяне Гасподзь... пачуў, але не прыняў, я кепскі вернік, ды не вернік я ніякі, бо ўвесь у спакусах, праз якія і ўлез у тое, што не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё... і Гасподзь карае, пакідае мяне жыць у спазмах, у болю, які торгае, скручвае, працінае да мазгоў, у якіх панічна мітусяцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны... і калі я ачомваюся, іх вывapочвае з мяне, я ванітую імі, нейронамі, маімі мазгамі, у якіх перакручваецца свядомасць: я раблюся як бы не я — і той, хто не я, на таго, хто я, нешта ўсё нагаворвае, нагаворвае, нагаворвае, а старэйшы з тых дваіх, што прыйшлі з генералам, запісвае, запісвае, запісвае на дыктафон і ў нататнік...

— Моцны вы... — кажа доктар, калі генерал і двое з ім выходзяць. — Ваш бацька ў якім веку памёр?

Я не помню, у якім веку памёр бацька.

— А маці?

І пра маці не помню... Я не помню нават пра сябе... Але помню пра доктара, якому спрабую сказаць: «Няхай вы не можаце гэтага спыніць, але...»

Мне цяжка прамаўляць не таму, што не хочуць слухацца язык і губы, а таму што ў мазгах парваныя сувязі паміж нейронамі — і думкі тыкаюцца сляпымі кацянятамі, шукаючы тыя, якія засталіся цэлымі, ланцужкі.

— Што «але»?

— Вы маглі б у гэтым не ўдзельнічаць.

Доктар глядзіць на мяне так, нібы тое, што я сказаў, яго надта здзівіла.

— Мы ж гаварылі з вамі пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю...

Так, мы гаварылі з ім пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю, пра змены сувязяў паміж нейронамі, мы пра многае гаварылі — і што з таго? Мяне катуюць, а ён вядзе гаворкі пра індуізм! Пра закон кармы, па якім калі ты нарадзіўся катам, дык найпершы твой абавязак — як мага лепей адсякаць галовы.

Хай нават так, хоць яно не зусім так, але ж ён не кат, а доктар. Менавіта гэта я хачу яму давесці, на што ён кажа: «Магчыма, у папярэднім жыцці я быў катам, выканаў карму ката і стаў доктарам».

Ён не выканаў карму ката і не стаў доктарам. Дактары не катуюць.

«Хіба я вас катую?»

«А хто?»

Ён ківае за дзверы...

«А мярзоціну хто мне ўшпільвае?»

«Сястра. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Ён, значыць, адказвае за тое, што націскае чырвоную кнопку.

Тады за што адказвае генерал? І той, хто з ім? І сын таго, які ўсіх іх да мяне пасылае?..

Я не задаю гэтыя пытанні доктару, бо яны з тых, якіх ён не чуе, і сам пытае: «Я выконваю карму доктара, а вы — чыю?..»

Ён хоча, каб я толькі пра тое й думаў, што ўзяўся не за сваё.

Я думаю, што карму доктара ён выконвае не так, як трэба, але мала што я думаю... Я нават не ведаю, думаю я ўвогуле ці не.

Боль не можа думаць — проста баліць.

— Зрэшты, — кажа доктар, не дачакаўшыся адказу на тое, чыю карму я выконваю, — вы можаце гэтага й не ведаць. Таму й нагаворваеце на сябе абы-што.

— Кожны з нас, нічога пра сябе не ведаючы, абы-што на сябе нагаворвае.

Доктар маўчыць хвіліну, ківае галавой:

— Бадай, так. Хоць галоўнае пра сябе ведаюць усе.

Я не пытаю, што галоўнае пра сябе ўсе ведаюць, — ён мне пра гэта ўжо казаў. «Націсні на любога — і з любога вылезе кавалак дзярма. Больш нічога». Калі я спрабую пярэчыць: «Дзярмо з сябе кожны мусіць выціскаць сам...» — ён кожны раз перапыняе:

— Мяне цікавіце не вы, а ваш боль.

Я намагаюся яго зразумець.

Ён кажа: «Усё вырашаецца тым, баліць табе ці не баліць, а калі баліць, дык як», — і ў хвіліны, калі мне не баліць, я згодны прызнаць, што ў ягоных развагах ёсць праўда: усім нам шкада, калі нехта, рыба ці птушка, гіне, ці нешта, кветка ці мова, знікае, але некаму — баліць, некаму — не.

— Вас цікавіць, ці баліць мне тое, праз што мяне прыкавалі да ложка ў вашай трупярні?

— Не. — Ён усміхаецца, усмешка ў яго пагардлівая. — Што вам можа балець? Свабода? Дэмакратыя?.. Такіх органаў у чалавека няма.

Да болю прывыкнуць немагчыма, а да цынізму — можна. Мусібыць, я прывыкаю, бо пытаю:

— А вам карма баліць ці рэінкарнацыя?.. — і ён, як заўсёды, не чуючы таго, чаго не хоча чуць, доўжыць:

— Ёсць шлунак, ныркі, залозы. Яшчэ дзве-тры ін'екцыі — і вы кінеце гульні ў тое, у што вам не трэба гуляць, каб выжыць.

— Я помню, што ўва мне ёсць нешта яшчэ, апроч шлунка.

— Забудзецеся. Як у новым жыцці забываюцца на жыццё папярэдняе. Чаму, дарэчы, мы нічога з яго не помнім? У гэтым палягала асноўнае пытанне, звязанае з ідэяй рэінкарнацыі. Брахманы знайшлі адказ: мы ўсё забываем праз боль народзінаў. Так напісана ў Ведах.

Не народзіны, а боль стварае новага, ці як бы новага, бо ён ужо быў, чалавека.

Ён, можа, думае, што стварае ўва мне новага чалавека?..

— Вы, можа, думаеце, што ствараеце ўва мне новага чалавека, доктар?

— У пэўным сэнсе... Калі мы з'яўляемся ў свет праз боль, значыць, што?..

Ён робіць паўзу, чакае, пакуль нейроны ў маіх мазгах наладзяць такія сувязі, праз якія я здолею зразумець, дзеля чаго мы з'яўляемся ў свет праз боль, а я гляджу на гадзіннік, абедзве стрэлкі на якім няўмольна набліжаюцца да рыскі болю, і доктар, пачакаўшы, сканчае:

— Значыць, боль — шлях да ісціны. Нездарма, калі баліць, крычаць.

— Што значыць нездарма?

— Нездарма, бо бачаць ісціну.

— Яна такая страшная?

— Яна такая простая.

Я, дарэчы, не помню, ці крычу. Не чую сябе праз боль.

— Я крычу?

— Яшчэ як... — зірнуўшы на гадзіннік, ідзе да лядоўні, каб узяць мярзоціну, доктар, а я кажу:

— Вы не далі мне пігулкі.

Ён спыняецца.

— Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі. Нарэшце.

— Што?..

Доктар не паспявае растлумачыць мне, што я нарэшце зразумеў, бо насцеж расчыняюцца дзверы, у якіх з'яўляюцца трое — і адзін, генерал, кідае з парога:

— Доктар, вы гатовы?

Да ін'екцыі паўгадзіны.

— Яшчэ паўгадзіны... — разгублена глядзіць на генерала і тых дваіх, што ўвайшлі з ім, доктар, а сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, кажа адрывіста:

— Давайце раней. Каб не прывыкаў.

Яму ўсё здаецца, што я прывыкаю. Няхай бы сам прывыкнуць паспрабаваў.

— Але я не... — пачынае і змаўкае, наткнуўшыся на позірк генерала, доктар, падыходзіць да стала, стаўшы каля якога спінай да ўсіх, націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці... а сястра, якая звычайна з'яўляецца імгненна, не йдзе... не йдзе... не йдзе... і адзін з вартавых вінавата кажа ў дзвярах: «Яе няма. Выйшла, будзе праз паўгадзіны».

Шыя генерала над белым каўнерыкам кашулі пачынае наліваецца чырванню.

— Як няма?.. Куды выйшла?.. Тут закрыты аб'ект ці раённая паліклініка? — наступае ён на вартавых, потым рэзка паварочваецца і кідае доктару: — Значыць, сам!

Доктар таксама паварочваецца:

— Я не...

І зноў не дагаворвае.

— Што не?.. Калоць не ўмееш?.. — з пагрозлівым здзіўленнем пытае генерал, а той, які павінаваціўся, вартавы прапануе:

— Давайце я... Я ўмею, нас вучылі.

Генералу, счырванеламу праз тое, што начальства прывёў не на закрыты аб'ект, а ў раённую паліклініку, праз што ў яго могуць быць праблемы, хочацца ўсё найхутчэй скончыць, ён згодна ківае: «Ну, давай ты, калі вучылі...» — і вартавы йдзе да майго ложка, але сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, раптам кажа: «Не! Кожны адказвае за сваё!» — і ва ўпор глядзіць на доктара, нібы падслухаўшы ўсё, пра што мы з доктарам гаварылі.

Можа, і слухаў... Яны і ў раённай паліклініцы слухаюць.

Доўгага позірку ва ўпор доктар не вытрымлівае, дастае з лядоўні ампулу з мярзоцінай, кладзе на стол, зноў націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці...

і рука, якой ён кнопку націскае, пачынае дрыжаць... а сястра не йдзе, не йдзе, не йдзе — і дзіўная рэч: мне хочацца, каб яна прыйшла, хоць я павінен хацець іншага, бо што мне гэты доктар, цынік, які даводзіў тут сваю выключнасць, а зараз яго ткнуць пысай у ягонае ж дзярмо, пакажуць, чаго ён варты, давядуць, што нічога ён не значыць, але вось жа я нешта для яго значу, калі ён хоча паказаць мне — бо каму яшчэ? — што не такі, як яны, што адказвае толькі за чырвоную кнопку, якую цісне, цісне, цісне, пакуль трэці з тых, што ўвайшлі, найстарэйшы з іх не крычыць: «Рабі, што кажуць!» — а генерал, якому перад сынам таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, толькі бунту ў раённай паліклініцы не хапала, падыходзіць да стала, бярэ ампулу і падае яе доктару: «Ці ты колеш гэта яму, ці ён, — ківае генерал на вартавога, які вызваўся зрабіць ін'екцыю, — коле гэта табе».

Генерал стаіць спінай да мяне, але нават па спіне генеральскай відаць, што чакае доктара, калі ён не возьме ампулу: вунь як вартавыя наструніліся! Доктар стаіць да мяне тварам — і па твары ягоным не скажаш, што ён гатовы зрабіць крок на шляху да ісціны, якая спасцігаецца праз боль. Такога развіцця падзей ён не чакаў, у мазгах ягоных ірвуцца, лопаюцца звычныя сувязі паміж нейронамі, але чамусьці я не адчуваю праз гэта ніякага задавальнення, зласлівай радасці: вось табе, маўляў, трыццаць першая частка трэцяй песні «Бхагавадгіты»! Мне нават шкада доктара, бо якім бы ён ні быў цынікам, ён адзіны, хто адчувае за тое, што тут робіцца, хоць нейкі сорам... ці, магчыма, не сорам, нешта іншае, я не ведаю, што ў такіх выпадках адчуваюць цынікі... але нешта ж ён адчувае, калі спрабуе захаваць хоць рэшткі годнасці, няхай не падобна, што гэта яму ўдасца, хіба пасля рэінкарнацыі, у іншым жыцці... а можа, удасца і ў гэтым, бо ў дзверы ўскоквае запыханая медсястра: «Выбачайце!..» — і бярэ з рук генерала ампулу.

Пэўна, праз тое, што доктар не даў мне пігулкі, боль гэтым разам быў такі, што спынілася сэрца. «Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі... нарэшце...» — чуўся ў снежнай лясной цішыні, не падобнай ні на цішыню рачную, ні на цішыню лугавую, нечы знаёмы голас, і мне ўсё хацелася ўспомніць, чый... і карцела дазнацца ў яго: што ж такое я нарэшце зразумеў? — але наўрад ці пра гэта я калі-небудзь дазнаюся, бо, ачуняўшы на аблытаным правадамі ложку, дыхаючы праз гумовую, як для мяча, якім гуляў у дзяцінстве, камеру, убачыў у халодна-голым, абкладзеным сіняй кафляй пакоі зусім іншага, незнаёмага мне чалавека, якога праз тое, што быў ён у белым халаце, можна было прыняць за доктара.

*12–21.02.2011, Мінск, хатні арышт*

## АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

Валянцін Сідаравіч Пранкевіч адносіўся ўсё сваё жыццё да жыцця наогул, жыцця ў шырокім сэнсе слова — да прыроды там, да жывёлін ці людзей, — роўна, нават абыякава. Ніяк, можна сказаць, не адносіўся, абы яны яму — прырода там, жывёліны ці людзі — не заміналі. Адзінае, чаго трываць не мог ён у прыродзе, у прыродзе ў шырокім сэнсе слова, — гэта надта разумныя. «Ты надта разумны?» — пытаўся ў некага Валянцін Сідаравіч — і ўсё! У тым сэнсе ўсё, што не маеш ты падставы ў прыёмных ягоных на канапах скуру зморшчваць і ў кабінетах ягоных парогі абіваць, калі надта разумны. І не спрабуй пасля перайначвацца з надта разумнага ў разумнага не надта, непакоіць Валянціна Сідаравіча, даводзячы, нібы ты не надта разумны, — без толку! Каб не надта разумны быў, дык не заўважыў бы Валянцін Сідаравіч, што ты надта разумны, і на табе не паставіў бы крыж.

На свае гады, паўстагоддзя з хвосцікам, выглядаў Валянцін Сідаравіч зусім не кепска, бо апошнія гадоў трыццаць, між намі кажучы, ні чарта не рабіў. Ну абсалютна... Перабіраўся з кабінета ў кабінет, калі гэта можна лічыць работай, ды казаў некаму: «Ты надта разумны!» Так, ён мог не толькі спытацца ў некага: «Ты надта разумны?» — але і сцвердзіць: «Ты надта разумны!» Гэта ў тых выпадках, калі ўсё было настолькі відавочным, што і пытацца не было пра што. Тады ўжо ты да Валянціна Сідаравіча не толькі ў службовых апартаментах, але і на нефармальнай тэрыторыі — ні на банкеце, ні на фуршэце — не падыходзь!

Ні чарта не рабіць пачынаў Валянцін Сідаравіч з камсамольскіх кабінетаў, пасля сядзеў у кабінетах партыйных, прафсаюзных, гаспадарчых — ні ў адным не было пыльна. Таму ён заўсёды хадзіў у свежых, белых кашулях, у бездакорна адпрасаваных, найчасцей чорных, касцюмах і ў бліскучых, таксама чорных, туфлях. А вось гальштукі любіў стракатыя — і калі з чым і была невялічкая праблема, дык менавіта з гальштукамі. Валянцін Сідаравіч, задумваючыся, ці спытацца ў некага: «Ты надта разумны?» — ці сцвердзіць: «Ты надта разумны!» — браў гальштук за кончык, церабіў тым кончыкам па падбародку, па барадзе, вышэй, вышэй, да рота — і пачынаў жаваць. Рэфлекторна пачынаў жаваць, не заўважаючы, што жуе, і нічога з гэтым зрабіць не мог, хоць ты гальштук па ўсёй даўжыні да кашулі прышывай! Неяк жонка так і зрабіла, прышыла, дык не пажаваў. Але прыйшоў дахаты з кашуляй, на жываце падранай — гэтак за канец гальштука рвануў, забыўшыся... Дык дзе ж тых кашуляў набярэшся? Вось і з'яўляўся зрэдку Валянцін Сідаравіч у пажаваных гальштуках. Канешне, пры ўсім астатнім парадку гэта драбяза. Калі касцюм апранаўся двухбортны і на ўсе гузікі зашпільваўся, дык пажаванасці той і не відно было. Мода ў апошнія гады пайшла не туды, на ўсё такое лёгкае, што амаль не зашпільвалася, ды Валянцін Сідаравіч на моду не зважаў: за адказнай кіраўнічай работай мода праходзіла незаўважна.

Куды заўважней было тое, што работа ў апошнія гады пайшла не такая адказная: кабінет-пенал з адным акном, катушок прыёмнай з сакратаркай на двух — на яго самога, загадчыка аддзела, і на калегу ягонага Семенчука, таксама загадчыка аддзела, толькі аддзела іншага. Кожны, хто ўваходзіў, адразу разумеў: не тая адказнасць. Не размах.

А чаму не размах? Не па аб'ектыўных прычынах не размах, не таму, што Валянцін Сідаравіч кіраўнічы

спрыт страціў, з размахам служыць не мог. З-за драбязы, з-за гальштука не размах.

З раніцы ў мінулую пятніцу, гэта было якраз трынаццатага, сядзіць ён у сваім, яшчэ тым, з размахам, кабінеце, а на прыёме ў яго адзін з гэтай нацыянальнай інтэлігенцыі, адзін такі ўжо надта разумны, што гальштук не жаваць проста немагчыма. Валянцін Сідаравіч дажаваў гальштук амаль да вузла, калі сярод тузіна тэлефонаў, што стаялі на стале, зазваніў той, які раней, колькі займаў Валянцін Сідаравіч кабінет, не званіў ніколі: чырвоны сярод белых і чорных. У Валянціна Сідаравіча рука закалацілася, пацягнуўшыся да таго тэлефона — і ён ледзь вузлом гальштука не падавіўся, пачуўшы ў слухаўцы голас, які пракінуў коратка: «Ка мне!»

Валянцін Сідаравіч і думаць не падумаў, што гэтак сабак клічуць: «Ка мне!» Зусім іншая думка наскрозь прабіла: як «ка мне», калі гальштук да вузла дажаваны? Без гальштука? У кабінет да... У кашулі нараспашку, нібы ты сябрук ягоны? Нібы разам вы пілі і гальштук прадалі, бо на гарэлку яшчэ было, а на піва ўжо не хапала?..

Валянцін Сідаравіч падскочыў, сеў, зноў падскочыў і зноў сеў, бездапаможна гледзячы на таго надта ўжо разумнага, які да яго на прыём прыпёрся і праз якога ён зжаваў гальштук, на гэтага аднаго з нацыянальнай інтэлігенцыі, якую Валянцін Сідаравіч і без таго не любіў, а цяпер проста ўзненавідзеў лютай нянавісцю. Ходзяць тут! Просяць нечага, загадзя ведаючы, што нічога ім не дадуць! Абы назаляць! Адрываць ад працы! Заўчора адзін прыпёрся: прашу... Учора другі: прашу... Сёння гэты...

— Прашу прабачэння, — раптам сказаў гэты адзін надта разумны з нацыянальнай інтэлігенцыі, — па-мойму, вас да начальства паклікалі, а ў вас з гальштукам праблема. Дык магу свой даць, калі падыдзе.

Шэры касцюм на нацыянальным інтэлігенце быў зашмальцаваны, каўнерык жаўтаватай, нібы падпаленай кашулі пацёрты, але чырвоны гальштук выглядаў нішто сабе. Хоць і надта шырокі, Валянцін Сідаравіч любіў жаваць вузейшыя.

— На калідоры пачакайце, — сказаў ён нацыянальнаму інтэлігенту, спехам сунуўшы галаву ў шырокую пятлю чырвонага гальштука. — Аддам, калі вярнуся.

Падзякаваў яшчэ... Скуль ён ведаў, што гэта правакацыя?..

— Гэта што? — ткнулі ў грудзі Валянціна Сідаравіча пальцам, як толькі пераступіў ён парог кабінета, у які яго паклікалі. — Ты хто?..

Калені, у якіх і без таго адчувалася млявасць, раптам гэтак аслаблі, што Валянцін Сідаравіч ледзь на іх не бухнуўся.

— Пранкевіч я... Валянцін Сідаравіч... выклікалі...

— Підаравіч ты, а не Сідаравіч! — яшчэ болей падвысіў голас гаспадар кабінета. — Што ў цябе на шыі? Хочаш, каб цябе на ім павесілі? Вон!..

Нічога не цямячы і баючыся страціць прытомнасць, Валянцін Сідаравіч спінай падаўся да дзвярэй, азадкам прыадчыніў іх на шчыліну, у якую можна было пралезці, перасунуўся з кабінета ў прыёмную, дзе адразу ж сталася тое, чаго ён баяўся: усё ў ім зацьмілася.

Ачуняў ён на падлозе: нейкая жанчына з тварам касманаўткі без скафандра стаяла над ім з вялікім, знятым са сцяны, люстэркам, якое намагалася прыставіць да ягоных губ, каб паглядзець, ці ён дыхае... У люстэрку Валянцін Сідаравіч убачыў сябе ў расшпіленым пінжаку і ў белай кашулі, на якой роўненька ляжаў шырокі чырвоны гальштук. Калі б жанчына з тварам касманаўткі начапіла Валянціна Сідаравіча на дрэўка, дык яго на тым дрэўку можна было б узняць, як бел-чырвона-белы сцяг...

— Гэта вы на мне пінжак расшпілілі?.. — вярнуўшыся з таго свету, спытаў ён жанчыну з тварам ка-

сманаўткі, якая, убачыўшы, што ён не сканаў, стала вешаць на сцяну люстэрка, не ўтрымала яго, яно ўпала, і касманаўтка, узвыўшы і заскакаўшы на адной назе, закрычала раптам: «Вон! Разлёгся тут, сцяганосец!..»

Праз тое, што Валянцін Сідаравіч страціў прытомнасць і ледзь не апруцянеў, яго пашкадавалі, не арыштавалі. Ён напісаў шчырую споведзь пра сваё жыццё, пра тое, як жыў і жаваў гальштукі, — і яго нават са службы не выгналі, толькі перасадзілі з большага кабінета ў меншы.

Вось у гэтым меншым кабінеце ўсё і пачалося... Два дні прасядзеўшы ў ім, як звычайна, ні пра што не думаючы, на трэці дзень Валянцін Сідаравіч гэтак жа раптам, як тая касманаўтка закрычала, падхапіўся з-за стала, нібы сарвалася са сцяны і па назе яму люстэрка стукнула: «А для чаго я быў пакліканы?..»

Ён памацаў лоб, пацёр скроні... Думка была такой яснай, гэтак відавочна было, што яна не дзе-небудзь, а ў галаве, што Валянцін Сідаравіч аж успацеў... Сеў, выпіў вады... Не для таго ж яго паклікалі, каб закрычаць: «Вон!..» Прадбачыць, што ён зжуе свой гальштук і павяжа чужы, не маглі... Нават у тым кабінеце, дзе ўсё прадбачваюць... Не маглі прадбачыць хоць бы па той прычыне, што прадбачваць не было чаго — гэта ж выпадак, проста выпадак. Ён увайшоў — і тут прамень з акна: на бел-чырвона-белае...

Не збіраліся яго выганяць.

Тады для чаго паклікалі?.. Пра штосьці параіцца?.. Даручыць нешта хацелі?.. Што?..

Той, хто яго паклікаў, ніколі і нічога не рабіў выпадкова. Нічога і ніколі. Чаму ж тады зазваніў чырвоны тэлефон, у слухаўцы якога пачулася: «Ка мне...»? І гэтак проста яно было сказана, па-свойску, як некаму з набліжаных...

Што ж за гэтым стаяла?

Што павінна было стацца — і не сталася?.. Магло быць — і не збылося?..

Валянцін Сідаравіч страціў спакой і сон. «Для чаго, для чаго, для чаго?..» — качаўся ён начамі ў ложку, абгрызаючы рагі падушкі, не здольны адвучыцца ад звычкі што-небудзь жаваць і жаваць, і жонка ўскоквала, скрозь сон пытаючыся: «Што для чаго?..» О, як ён ненавідзеў яе ў тыя ночы, заспаную, памятую, ідыётку, надта разумную!..

Жонка Валянціна Сідаравіча, якую звалі амаль гэтаксама, як і яго, Валянцінай Сідараўнай, з якой ён і ажаніўся праз тое, што яна Валянціна Сідараўна, надта разумная была. Пазнаёміліся яны некалі ў Аўстрыі на зімовых Алімпійскіх гульнях, паездкай на якія Валянціну Сідараўну ўзнагародзілі за высокія дасягненні ў мастацкай самадзейнасці, а Валянціна Сідаравіча, адказнага камсамольскага работніка, над усімі ўзнагароджанымі паслалі кіраўніком. Вось ён і вычытаў у спісе групы: Пранчакова Валянціна Сідараўна — нават прозвішча да ягонага падобнае...

На тым, як пасля аказалася, падабенства між імі скончылася. Валянціна Сідараўна надта разумная была, а да ўсяго, бо ў інстытуце культуры працавала, надта культурная. У філармонію слухаць музыку хадзіла, вершы чытала — і Валянцін Сідаравіч не быў супраць. Не патакаў, але й не замінаў: няхай чытае і слухае. Ён тым часам у якую-небудзь кампанію адскокваў: каньячку выпіць, у прэферанс згуляць. У апошнія гады, праўда, кампаніі з каньячком і прэферансам перавяліся, замяніліся гульбішчамі ў лазнях. Валянцін Сідаравіч пасля службы, пакуль жонка ў філармоніі была, схадзіў аднойчы з калегамі ў адну такую... ну, лазню. Схапіў заразу. З жонкай скандал, хоць і культурная. Добра яшчэ, што найпростым абышлося. Як калегі казалі, насмаркам. А магло б... Дык Валянцін Сідаравіч і перастаў вадзіцца з тымі смаркачамі, ну іх...

— Скажы мне, Валя, — загаварыў раніцай Валянцін Сідаравіч з жонкай, бо загаварыць болей не было

з кім, — вось калі б цябе нехта паклікаў, а пасля не сказаў, для чаго?.. Што б ты падумала?

— Хто паклікаў?.. — сонна пацягнулася жонка, якая да поўначы сядзела ўчора на нейкім канцэрце — і што гэта за канцэрты такія: да поўначы?.. І ўвогуле гэтыя надта разумныя разам з надта культурнымі ўсе нейкія сонныя...

— Усё адно хто... Дырыжор паклікаў...

Жонка адразу прачнулася і спытала, як здалося Валянціну Сідаравічу, насцярожана:

— Які дырыжор?

— Які на канцэрце тваім быў. Быў жа на тваім канцэрце дырыжор?

— Ён на сваім быў, а не на маім...

— Ды якая розніца! На тваім, на сваім... Калі б ён цябе паклікаў, а пасля не сказаў, для чаго, ты што б падумала?..

Жонка пасунула падушку вышэй да спінкі ложка, села і запаліла... Яна ўсё жыццё з самай раніцы паліла, гэтыя ўсе надта разумныя і культурныя ўсё жыццё з самай раніцы, нават не паснедаўшы, паляць.

— А ты што падумаў?

Валянцін Сідаравіч падняўся, ён не трываў цыгарэтнага дыму. А жонку, якая з раніцы дыміла, трываў. Амаль трыццаць гадоў трываў...

— Што я мог падумаць? — накінуў ён халат і рушыў на кухню, каб згатаваць і падаць каву Валянціне Сідараўне, якая з раніцы паліла і каву піла, бо ўсе гэтыя культурныя з раніцы паляць і каву п'юць. — Я ж не быў на тваім канцэрце.

— Тады хто табе сказаў? — кінула ў спіну яму, калі ён са спальні выходзіў, жонка. — Ты Семенчуку ўночы званіў?

Валянцін Сідаравіч спыніўся ў дзвярах спальні, адчуўшы нешта нядобрае. Разам з Семенчуком ён у той лазні быў, дзе падхапіў заразу. Ён падхапіў, а Семянчук — не, хоць Семянчук, з якім і жонкай якога

яны нібыта сем'ямі сябруюць, не толькі ў лазню, але і ў філармонію ходзіць.

— Я не званіў яму... Для чаго мне ўночы яму званіць?

— Значыць, ён табе?..

— І ён не званіў... Для чаго яму ўночы мне званіць?

— Тады хто?

— Што — хто?

— Хто табе пазваніў?

— Ніхто! — узняў і скінуў рукі Валянцін Сідаравіч. — Ніхто не званіў! Для чаго ўночы нехта будзе мне званіць?

— Для... ну, ці мала для чаго... — затушыўшы цыгарэту, неяк лёгка паднялася жонка, хоць звычайна доўга не ўставала, чакаючы каву ў ложку. — Я ў лазенку, а ты на кухню... Хуценька, хуценька, ідзі, ідзі...

«Для чаго?.. — думаў, гатуючы каву і наразаючы бутэрброды, Валянцін Сідаравіч. — Для нечага ж ён мяне паклікаў... Што павінна было стацца — і не сталася?..»

— Ён з дзяцінства адчуваў, што для нечага пакліканы... — сеўшы да стала і адсёрбнуўшы кавы, сказала жонка.

Культурная, а сёрбае.

— Скуль ты ведаеш? — думаючы пра сваё, падаў ёй бутэрброд з паляндвіцай Валянцін Сідаравіч.

— Сам ён мне сказаў... Ты ж званіў Семенчуку, не прыкідвайся.

Валянцін Сідаравіч утаропіўся ў Валянціну Сідараўну.

— Хто табе сказаў?

— Ну, ён... — надкусіла бутэрброд жонка. — А пра каго табе Семянчук званіў?

— Ні пра каго, — паклаў на талерку, не ўкусіўшы, свой бутэрброд з сырам, бо на разумовай рабоце не еў зраніцы мяса, каб кроў ад мазгоў да шлункаў не

адхлынала, Валянцін Сідаравіч. — Ты дзе была амаль да раніцы?

— Не табе пытацца... — жуючы, адказала Валянціна Сідараўна, і Валянцін Сідаравіч у каторы раз пашкадаваў, што спакусіўся і папёрся ў тую праклятую лазню. Але гэта не азначае...

— У філармоніі?.. — сцішана спытаў ён жонку, глынуўшы гарачай, якая апякла шлунак, гарбаты. — На канцэрце? З Семенчуком?..

— На канцэрце ў філармоніі з Семенчуком, — згадзілася Валянціна Сідараўна. — І Семянчук пазнаёміў мяне з дырыжорам, пра якога я табе кажу, што ён пакліканы.

— А... — нібыта ўрэшце зразумеў нешта Валянцін Сідаравіч. — Дырыжор... І куды ён пакліканы?

— Сюды...

Валянцін Сідаравіч разгледзеўся.

— Куды сюды?

— Не да цябе ж на кухню бутэрброды жаваць! У жыццё, у свет...

— Кім?

— Богам! — гэткім рэзкім рухам, што кава плёхнулася, паставіла кубачак на стол жонка.

— Ты чаго?.. — узяўся за бутэрброд Валянцін Сідаравіч. — У свет дык у свет, Богам дык Богам... Мяне Ён таксама паклікаў, так што...

— Не так што! — нервова запярэчыла, ледзь не крыкнуўшы, Валянціна Сідараўна. — Цябе Ён не клікаў! Ніхто цябе не клікаў, нават я не клікала!

— Але ж я тут...

— Выпадкова! Мог і не быць!

— Дык і ён, твой дырыжор, мог не быць...

— О не!.. — Жонка ўстала з-за стала, прайшла да пліты, даліла сабе кавы. — Яго не быць не магло!

— Чаму гэта?

— Бо не было б тады музыкі! — выкрыкнула Валянціна Сідараўна і яшчэ нешта хацела дадаць, але

не прыдумала што і таму паўтарыла — толькі ўжо цішэй. — Музыкі тады б не было...

— А куды б яна падзелася? — шчыра не зразумеў Валянцін Сідаравіч. — Вунь яе колькі, з ранку да ночы...

Валянціна Сідараўна вярнулася да стала і паглядзела на мужа, шкадуючы.

— Божа мой, які ты... Які ты... Са сваім Семенчуком, са сваімі... Якія вы ўсе...

— Якія?..

«Тупыя!» — убачыў Валянцін Сідаравіч слова, напісанае, як яму здалося, у вачах Валянціны Сідараўны, але яна, культурная, слова тое не сказала.

— Не такія!.. Тых гукаў, таго дзіва, той прыгажосці, дзеля якой яго паклікаў Бог, — вось чаго без яго не было б! Як без мастака карціны, вершаў без паэта... Можаш ты гэта ўцяміць?

Валянцін Сідаравіч таксама лічыў, што яны з Семенчуком не такія, як нейкія там паэты з мастакамі, таму паспрабаваў абараніць і сябе, і Семенчука, хоць той на канцэрце ў філармоніі разам з жонкай ягонай быў і з дырыжорам яе пазнаёміў, з якім яна невядома дзе амаль да раніцы цягалася.

— Дык і без мяне... — пачаў ён, але Валянціна Сідараўна не дала яму абараніцца.

— Ну што?.. Што без цябе? Чаго без цябе не было б?.. Хіба трыперу ў мяне? Мандавошак з лазні?..

Проста ў твар выпаліла. Ніякай далікатнасці. А яшчэ культурная.

Валянцін Сідаравіч не помніў, каб нейкі выхадны дзень (а была нядзеля, бо ў суботу жонка ў філармонію хадзіла) пачынаўся гэтак нервова. Дый доўжыўся не лепш... Да вечара неадчэпна тузала пытанне: «Для чаго?.. Для чаго?.. Для чаго?..» — і ён не знаходзіў — бо дзе шукаць? — адказу. Пад вечар ад усяго гэтага: неадчэпнага пытання, мандавошак з лазні, паэтаў з мастакамі, надта разумнай жонкі з дырыжорам — так раз-

балелася галава, што пенталгін не ратаваў, і Валянцін Сідаравіч узрадаваўся, калі патэлефанаваў Семянчук і прапанаваў выпіць каньяку. «У нас касманаўтка наша ў гасцях, шмат цікавага расказвае...» — казаў Семянчук весела, нібы й не здагадваўся, а якой гадзіне жонка Валянціна Сідаравіча дахаты з філармоніі прыйшла. Ён, гэты Семянчук, мужык увогуле як мужык, але такі ўжо...

У гэтага Семенчука брат ёсць, доктар-траўматолаг, дык калі Валянцін Сідаравіч левую ключыцу зламаў, на бананавай, як у тым анекдоце, шалупайцы паслізнуўшыся, Семянчук яго да брата завёз, які ключыцу саставіў, спіцы ў яе ўвагнуўшы, а калі выцягнуў спіцы, дык у Валянціна Сідаравіча адчуванне засталося, нібы ў шыі нешта колецца, і ён патэлефанаваў брату Семенчука, а той сказаў, што гэта нармальна: паколе і з часам само пройдзе. Праз час Валянціна Сідараўна пытае: «Валя, а што гэта ты не толькі гальштукі, а ўжо й каўнерыкі на кашулях жуеш»? — а ён не жаваў каўнерыкі, гэта спіцы іх, калі ён галаву нахіляў, драпалі! Брат Семенчука, аказалася, не ўсе спіцы з шыі выцягнуў — надта разумны!.. Доктар... У гэтых Семенчукоў уся сям’я такая — і жонка Семенчука таксідэрмісткай працуе, чучалы са звяроў і птушак вырабляе, і кажа, што марыць вырабіць чучала з чалавека, толькі са снежнага, бо той касматы...

«Якая наша касманаўтка?..» — не адразу дапяў Валянцін Сідаравіч, і Семянчук засмяяўся: «Прыёмная...»

Успомніўшы, што Семянчук хваліўся знаёмствам сваёй таксідэрмісткі з касманаўткай з прыёмнай, Валянцін Сідаравіч хуценька сабраўся і, не палічыўшы патрэбным дакладваць Валянціне Сідараўне, куды ён і да каго, рушыў з дому. Касманаўтка ведае, для чаго яго паклікалі, павінна ведаць...

Каб патрапіць да Семенчукоў, трэба было перайсці Цэнтральную плошчу, дзе стаяла купка людзей, з якой

нехта гукнуў: «Валянцін Сідаравіч!..» — і ён, угледзеўшыся, пазнаў таго нацыянальнага інтэлігента, таго надта разумнага, які да белай кашулі падсунуў яму чырвоны гальштук. Ад гальштука ягонага Валянцін Сідаравіч, канешне ж, пазбавіўся: выкінуў, нават не пажаваўшы. Цяпер на ім быў стракаты, такі срэбнабліскучы з жоўта-сіне-зялёнымі трыкутнічкамі, куды лепшы і даражэйшы за той чырвоны, і ўсё ж Валянцін Сідаравіч вырашыў аддаць яго інтэлігенту — няхай задушыцца. А то будзе крычаць кожны раз на вуліцы: «Валянцін Сідаравіч!..» — як знаёмцу...

Валянцін Сідаравіч спыніўся, каб зняць гальштук, а тут з той купкі людзей пачулася: «Пайшлі!..» — і ўсе яны, чалавек сорак, павыхоплівалі з-пад плашчоў, з-пад куртак бел-чырвона-белыя сцягі ды нейкія партрэты і рушылі з плошчы да праспекта, да ходніка — абцякаючы Валянціна Сідаравіча. Пакуль ён уцяміў, што гэта апазіцыя, што на партрэтах зніклыя палітыкі, з двух бакоў плошчы ўжо наляцелі, незразумела скуль узяўшыся, міліцыянты, амапаўцы, якім Валянцін Сідаравіч хацеў растлумачыць, што ён тут выпадкова, палез у кішэнь, каб паказаць пасведчанне, а бамбіза ў чорным, які ляцеў на яго, невядома што падумаў — і перапаясаў Валянціна Сідаравіча дручком. Валянцін Сідаравіч шмат разоў бачыў такое па тэлевізары і казаў: «Правільна, а то распаясаліся...» — але не думаў, што яно так, аж да спынення сэрца, балюча, а галоўнае: за што?..

Калі яго, ляжачага, адмясілі падкаванымі ботамі і, як бервяно, кінулі ў машыну, сэрца, здавалася, апошні раз ударыла — недзе ў горле...

З пастарунка яго, разабраўшыся, пад раніцу выпусцілі і нават дахаты падвезлі, бо ён ісці не надта мог, але хоць бы павінаваціліся, хоць бы слова прабачэння — не. А там жа быў палкоўнік, які яго ведаў... Толькі лейтэнант, які дахаты падвозіў, сказаў, што, паколькі

гэта памылка, дык паведамляць па месцы працы не будуць, а так бы паведамілі, ці ўвогуле пад суд...

Вось бы пасля гальштука яшчэ з міліцыі напісалі, што ён у пікеце з апазіцыяй, з партрэтам зніклага палітыка стаяў! Ці ўвогуле пад суд...

Уявіўшы, што б магло быць, Валянцін Сідаравіч аж скурчыўся, нібы яго зноў дубінкай перапаясалі... Лейтэнант дапамог яму з машыны выйсці: «Вы пастарайцеся расслабіцца, не так балець будзе».

Разумны надта...

Дома жонка збіралася ў свой культурны інстытут. На кухні, падціснуўшы губы, паліла і піла каву. Апранулася і пайшла, не спытаўшы, дзе ён усю ноч быў... У дзвярах толькі не ўтрымала марку, пракінула: «Мог і не вяртацца...»

Валянцін Сідаравіч раптам падумаў ёй услед, што сапраўды мог не вяртацца... Не з пастарунка, зразумела, не ад амапаўцаў — аднекуль. Ад Семенчука, ад касманаўткі ці яшчэ ад каго... І нічога б не змянілася. Валянціна Сідараўна выпіла б каву з цыгарэтай, апранулася б і пайшла ў свой культурны інстытут. Толькі ў дзвярах не сказала б: «Мог і не вяртацца...» — бо не было б каму сказаць.

Валянцін Сідаравіч не быў п’яніцам, з алкаголем увогуле, можна сказаць, не сябраваў, а тут раптам адчуў неадольнае жаданне напіцца. І не каньяком дваццацігадовай вытрымкі, а звычайнай гарэлкай! Нават самагонкай — мутнай, паленай, смярдзючай! Напіцца, набрацца, налізацца, нажлукціцца, каб нічога не помніць, не ўсведамляць, каб на нагах не стаяць, каб, нават лежачы, хістацца!.. Якая радасць! Якое шчасце ў гэтых п’янтосаў, алканаўтаў без скафандраў, бамжоў, якім толькі лыкнуць — і больш нічога! Нічога больш...

Госпадзі!.. Ды згіньце вы!.. Усе! Семянчук, жонка, нацыянальныя інтэлігенты!.. Зніклыя палітыкі, якія ўжо зніклі!.. Надта разумныя!.. Што, што, што магло

быць у тым кабінеце, куды яго паклікалі? Што павінна было стацца — і не сталася?.. Што не збылося?..

Неадольныя жаданні на тое і неадольныя, каб іх адольваць... Каўтнуўшы сухі кадык, Валянцін Сідаравіч зірнуў на гадзіннік і ўбачыў, што на службу спазняецца хвілін на пятнаццаць! Ён гэтак хутка, наколькі боль у грудзях дазваляў, пачаў пераапранацца, сцягваць турэмнае і ўлазіць у новую кашулю, штаны, бо яму ўжо ў кабінеце сваім трэба сядзець, а не дома на кухні пра п'янку з бамжамі марыць, ён жа ніколі не спазняўся, гэта святое! — і тут зазваніў тэлефон.

— Прывітанне апазіцыі! — вясёлым голасам сказаў Семянчук, і Валянціну Сідаравічу раптам стала страшна, хоць ён пакуль не разумеў, чаго спалохаўся. — Ты на службу болей хадзіць не будзеш, толькі на барацьбу?

Ну вось скуль ён ведае?..

— З чаго ты гэта ўзяў?.. — захістаўся на адной назе, другой ніяк у калашыну не патрапляючы, Валянцін Сідаравіч. — Я проста спазняюся... — і Семянчук перапыніў яго:

— З інтэрнэту ўзяў, дзе ты ва ўсёй красе... І ведаеш, як называешся?.. «Разгон мітынгу ў памяць зніклых палітыкаў».

Так і не патрапіўшы ў калашыну, Валянцін Сідаравіч абсеў на канапу каля шафы.

— Як?..

— «Разгон мітынгу ў памяць зніклых палітыкаў», — з асалодай паўтарыў Семянчук, і Валянцін Сідаравіч націснуў кнопку на тэлефоне, каб не чуць ягонага голасу, ды кнопку націснуў нейкую не тую, голас не прапаў, а загучаў мацней, як радыё, і быў гэта ўжо голас не Семенчука, а зусім іншага чалавека, які пачаў: «Я выклікаў вас, каб даручыць... — і раптам крыкнуў. — Вон!..»

«Вон... вон... вон...» — гучала і хісталася, як звон, у вушах Валянціна Сідаравіча, які, некуды падаючы, па-

даючы, падаючы, на імгненне ўбачыў сябе ў люстэрку, якое паднесла да губ ягоных касманаўтка без скафандра, але ўбачыў сябе не аднаго, з нейкім бамбізам на плошчы, і той бамбіза ў чорных пальчатках зацягваў яму гальштук на шыі, душыў і не даваў паказаць пасведчанне, сказаць, што ён тут выпадкова... не даваў дыхаць... не даваў... для нечага ж ён быў пакліканы?..

Вярнуўшыся з працы, Валянціна Сідараўна знайшла Валянціна Сідаравіча голага, у адной белай кашулі з пажаваным ражком каўнерыка, лежачы ў якой на чырвонай канапе ён быў падобны на сцяг — толькі з пераблытанымі колерамі: чырвона-бел-чырвоны. Сцяг Аўстрыі, дзе яны спаткаліся.

Сеўшы ў нагах нябожчыка, Валянціна Сідараўна падумала, што ў свеце ўвогуле многае пераблытана... Яна ўспомніла, як некалі, жыццё таму, за дасягненні ў мастацкай самадзейнасці яе паслалі на Алімпійскія гульні, і пашкадавала, што спакусілася, павялася заўчора на ўгаворы дырыжора, бо, калі б патрывала пару дзён, дык ні ў чым бы перад Валянцінам Сідаравічам, з якім пражыла амаль трыццаць гадоў, не была б вінаватая.

*25.02–01.03.2009, Мінск*

## *БАРЫ-БЭРЫ*

Аляксей Сяўко працаваў некалі з Вадзімам Кашыным у адным праектным інстытуце, дзе абодва яны масты праектавалі і абодва пазнаёміліся са сваімі жонкамі, Любай ды Алёнай, у той час яшчэ нявестамі. І вось днямі Алёна, жонка Сяўко, пачула ад Любы, жонкі Кашына, што той доўга і цяжка хварэў, ляжаў у шпіталі, адкуль яго выпісалі, бо ён безнадзейны — няхай дома памірае. «Як гэта няхай дома памірае?..» — не зразумеў Аляксей жонку, а тая адмахнулася: «Скуль я ведаю, Люба так сказала! Мне бары-бэры...»

Алёна ад усяго, што ты ёй ні скажы, адмахваецца, махальшчыца... Усё ёй бары-бэры. Гэта Аляксей павінен быў заўважыць яшчэ тады, калі яны ў праектным інстытуце пазнаёміліся, але не заўважыў. Ажаніўся, двое дзяцей. Сын і дачка. Сын нібыта й не дурны, у бацьку, дык цяпер пазнавата заўважаць, што жонка ад усяго адмахваецца. Не той перыяд.

Яны, Сяўко і Кашын, абодва вяселлі, Аляксея з Алёнай і Вадзіма з Любай, як адно адгулялі. Так і ўдвая таней, і ва ўсім астатнім удвая выгадней было. Вось тады, на тым адным на двух вяселлі, яны дамовіліся сябраваць і ўсім, што будуць мець, дзяліцца.

Выпілі лішак — дык і дамовіліся. Але ж не адказваць усё жыццё за тое, што зрабіў некалі малады ды нападпітку...

Сяўко да гэтага так і ставіўся, а Кашын дамоўленасць тую ўспрымаў усур'ёз. Насамрэч дзяліўся. Ну, не ўсім і не заўсёды. Можна нават сказаць, што толькі аднойчы, калі ў лата аднапакаёўку выйграў. Тады Васілю, сыну Сяўко, які паспеў ажаніцца і дзіця

займець, не было дзе жыць, дык Кашын выйграную аднапакаёўку ўступіў. Не за так, за паўцаны, і яшчэ колькі Сяўко яму праставіў, а Кашын абы-што не п’е, таму нават дзіўна, што так цяжка захварэў, але ўсё адно: хто табе сёння за паўцаны сваю кватэру ўступіць, калі яе можна здаць — і пі, колькі ўлезе? Не, Кашын усё ж, калі здаровы быў, у нечым дапамагаў, і трэба было б яго, хворага, адведаць.

«Адведай, — адмахнулася Алёна. — Але во будзе, калі ты да яго прыйдзеш, а ён возьме ды памрэ!»

Сяўко пра гэта і сам думаў. Не думаў, праўда, што Кашын, калі ён да яго прыйдзе, адразу памрэ, а думаў, што раптам яму горш стане — і як тады быць? Не прыходзіў да яго Сяўко — было лепш, а прыйшоў — стала горш... Люба такога набалабоніць! Не толькі паўкватэры ў лато выйгранай, а ўсю драбязу паўспамінае. Калі цвік які браў Сяўко ў Кашына, яна і цвік згадае, яна такая...

Добра, што не з Любай ён ажаніўся. Хоць тое, што ажаніўся з Алёнай, не лепш. Але ж з некім трэба было ажаніцца. Калі б не ажаніўся, не было б сына... А не было б сына, дык непатрэбная была б тая, за паўцаны, кватэра! І нічога б Сяўко не быў Кашыну вінен! Усё добра было б, калі б не сын-абэлтус, які не тое што кватэру — куртку, куртачку для дзіцяці купіць не можа! Алёна ўчора ўвесь горад аббегала, шукаючы, дзе танней. А куртачкі цяпер каштуюць — раней за такія грошы кватэры куплялі... І вось трэба да Кашына, бо Сяўко яму вінен, цягнуцца ў адведкі, гадаючы, горш ці лепш яму стане, памрэ ён ці не памрэ.

— А што ў яго... рак?.. — спытаў Аляксей жонку, і тая адмахнулася: «Нешта заразнае, мне бары-бэры».

Во, яшчэ і заразнае... Кашын заўсёды любую заразу самы першы хапаў. Хоць птушыны грып, хоць свіны — Кашын тут як тут. І сам на бюлетэнь, а ты за яго працуй.

Вунь мост цераз Вяллю праектавалі, які абваліўся. Чаму абваліўся? Бо Кашын на свінку захварэў. Дзіцячую інфекцыю падхапіў! І залёг. Надоўга залёг, з ускладненнем нейкім... На ныркі, ці яшчэ на нешта — Сяўко ўжо забыўся. А ў інстытуце праектным, дзе яны разам працавалі, ён адзін, Кашын, і быў маставіком. Сяўко таксама маставіком быў, па адной спецыяльнасці політэхнічны скончылі, але... як бы гэта сказаць... не склалася на практыцы. І не толькі ў Сяўко не склалася. Апроч яго, у тым інстытуце праектным яшчэ трое маставікоў у штатным раскладзе значыліся. Усяго, з Кашыным, іх было пяцёра, а Кашын залёг з дзіцячай інфекцыяй — і мост цераз Вяллю абваліўся. Хоць дырэктар інстытута пры ўсіх, каб усе чулі, колькі разоў Кашыну казаў: «Кашын, цяпер інфекцыі ўсялякія, інфлюэнцыі, не цягайся ты абы-дзе!»

Зрэшты, дзе той Кашын цягаўся? З такой жонкай, як Люба, па інфлюэнцыях не пацягаешся... Але ж абавязак, адказнасць перад калектывам ён павінен быў адчуваць! Дык не, не адчуваў. Вось не было ў ім гэтага: адказнасці за калектыў. Нават тады, калі мост абваліўся.

Сяўко раптам злавіў сябе на тым, што думае пра Кашына як пра нябожчыка. «Не адчуваў, не было...» Няўжо памрэ? Ці ўжо памёр? Не, у інстытуце б ведалі, на вянок бы скінуліся. У інстытуце заўсёды, калі нехта паміраў, скідваліся на вянок. А Кашын і тут выробляўся: «Я, можа, сам, асобна кветкі хачу купіць! Жывыя, а не папяровыя!» Дык ідзі купі, хто табе не дае? А на вянок скінься. Люба, якая ў прафкаме за нябожчыкаў адказвала, нават да тых, хто даўно ў інстытуце не працаваў і ўжо на пенсіі быў, хадзіла, каб яны скінуліся, бо калектыў ёсць калектыў. З яго на пенсію не выйдзеш, без яго не памрэш. Вунь Зусман у Ізраіль з'ехаў, калі мост абрушыўся. Якраз ён, Зусман, да гэтага моста, можна сказаць, і дачынення не меў, а з'ехаў. І ў Ізраілі памёр. Дык усё адно калектыў

адзін брат лавіў мышэй і хаваў, задушаных, а другі знаходзіў іх і выкідваў — такое вось было ў іх братняе размеркаванне абавязкаў.

Выручаў Багрым брата свайго не за так — інакш стаў бы я пра гэтую мышыную валтузню распавядаць! Багрым — паслуга за паслугу — брата свайго эксплуатаваў, за сябе змушаў выконваць гэтую надта ж непрыемную службу: мышэй лавіць. Бывала, вяртаешся з работы, а каля ганка іх цэлая гара, нацяганых са склепа, з пуні. І Багрым каля іх сядзіць, грэбліва прыжмурыўшыся. На, маўляў, пабач, што я магу, калі захачу, а то завёў сваю кружэлку: не ловіць, не ловіць...

Першы раз я паверыў яму — і смятаны наліў, і сподак аліўкаў выставіў. А потым ужо, у трэці ці чацвёрты раз падгледзеў, як Багір жыўнасць мышыную адлоўлівае і каля ганка складвае, а Багрым ляжыць у празрыстым цянёчку пад яблыняй і кіруе працэсам.

Смятаны я абодвум наліў... Аднаму — за працаздольнасць, другому — за кемлівасць. Дый за ўменне кіраваць.

Ух, колькі яны смятаны на пару ўмялі! Як быццам спаборнічалі, хто больш... Я ў жыцці не бачыў, каб кот, ці няхай нават два каты адразу гэтулькі смятаны зжэрлі! Багір, напрацаваўшыся і пад'еўшы ад пуза, проста пысай у смятане заснуў, а Багрым яшчэ пайшоў у сваю камору і закусіў аліўкамі. Ад аліўкаў у яго падвышалася кемлівасць. IQ.

Ён чаму аліўкі толькі са слоікаў пажыраў, кіпцюром іх чапляючы і ў рот запраўляючы, а насып аліўкі тыя самыя, нават большыя і тлусцейшыя, у сподак — качае іх лапай, як шарыкі?.. Ды таму, што як толькі ў хату любы госць зойдзе, так крычыць з парога: «А дзе гэты самы дзіўны ў свеце кот, які аліўкі са слоіка лапай дастае і пажырае?» І адразу слоік аліўкаў перад ім стаўляе. У Багрыма гэтых слоікаў з аліўкамі ў каморы болей было, чым у Багіра задушаных мышэй. Ну і, акрамя таго, пры слоіку з аліўкамі — ён цэнтравы,

самы галоўны, яму ўся ўвага. А калі б, як усе каты, са сподка еў, дык што?.. Няхай бы й аліўкі, і нават што заўгодна... Справа ж не ў тым, што, а ў тым, як, і Багрым, сапраўдны мастак, гэта разумеў.

Як у кожнага сапраўднага мастака, былі ў Багрыма зайздроснікі і ворагі. Брат не зайздросціў, не. І не таму, што брат, а проста праз адсутнасць мазгоў не было чым яму зайздросціць. Ён і не падумваў пра творчасць, не склалася...

А вось варона Ванда, якая ў двары нашым на старой ліпе ўсё спрабавала пасяліцца, а Багрым штораз яе гняздо руйнаваў, выганяючы Ванду ў жыццё бяздомнае, невядома дзе і з кім, была натурай творчай і ворагам хітрым, вытанчаным. Але Багрым і самую хітрую з усіх варон, якіх даводзілася мне бачаць, абхітрыў. Скарыстаўшы для гэтага ва ўсім падобнага на яго, акрамя ўнутранай сутнасці, Багіра.

Ягоны ёлупень-брат нічога не цяміў, апроч таго, што хацеў ад яго Багрым. Самы звычайны кот, Багір маліўся на свайго таленавітага брата, ва ўсім яму падпарадкоўваўся і, у чым мог, стараўся Багрыма зразумець.

Багрым завёў Багіра на другі паверх нашага дома, пасадзіў яго каля зачыненага акна на гаўбцы насупраць ліпы, а сам схаваўся пад разьбяны канёк на даху і стаў чакаць Ванду.

Ванда, вярнуўшыся, убачыла ворага свайго за зачыненым акном гаўбца — і стралой да яго... Багрым, гняздо вароны руйнуючы, не толькі замахваўся на яе прыватную ўласнасць, ён ва ўсім, як канкурэнтку ў творчасці, яе даймаў, і Ванда ўдзень і ўночы толькі пра тое і думала, як і чым яму дапячы. Шукала лінію паводзін. І нарэшце знайшла: зняважлівую. Інтуітыўна ўгадала самае балючае месца, на якое можна націснуць. Бо што можа быць для мастака больш крыўдным, чым знявага?..

Шырокае акно гаўбца выходзіла на бок цёплы, сонечны, і Багрым, наеўшыся смятаны з аліўкамі,

любіў пакачацца на шырокім падваконніку, папесціцца. Ляжаў сабе ды назіраў наваколле: людзей, сабак, дрэвы, птушачак... Для яго гэта быў не столькі адпачынак, адпачываць яму не было ад чаго, колькі момант натхнення.

І вось аднойчы, у гэткі святы момант, ён угледзеў і ўчуў нешта неверагоднае: варона Ванда, завісшы — зусім як шрубалёт — на адным месцы за акном гаўбца так блізка, што можна, здавалася, лапай дастаць, ды паспрабуй дастань з-за шкла, ашалела круціла крыламі і каркала, каркала, каркала, здзекліва падміргваючы, галавой і хвастом матляючы: «Мастак знайшоўся! Бачыла я такіх мастакоў! Толькі б дрыхнуць дні напралёт ды аліўкі жэрці! Ды ты й не кот нават, якія гэта каты аліўкі жаруць! — а не тое, што мастак!..»

І ўсё гэта ў вочы яму, у пысу, у святое святых...

Гэтак і павялося: як толькі Багрым з'яўляўся ў зачыненым акне гаўбца натхнёным мастаком — так адразу ж Ванда павісала перад ім ашалелым шрубалётам.

Багрыма да зацьмення мазгоў гэта даводзіла, да таго вар'явала, што ён спачатку, быццам нейкі дурань-брат, у сляпой лютасці, пакуль Ванда вісела перад ім і ў вочы здзекліва каркала і каркала, кідаўся і кідаўся на шкло. Але праз некалькі дзён, адкідаўшыся раз, другі і трэці, ён засаромеўся самога сябе, раскінуў мазгамі і, счакаўшы час, калі Ванда ў кароткім адлёце была, прывёў на гаўбец Багіра... Пасадзіў яго ў акне замест сябе, як нажыўку, а сам скокнуў з-пад разьбянага канька на даху — і ад Ванды пух ды пёркі паляцелі. Толькі і паспела ў апошні раз каркнуць: «Ну, Багрым!..» А можа, каркнула: «Ну, я дурная!..» — хто іх, варонаў, разбярэ.

Дарма яна пра сябе так... Багрыма ад Багіра толькі дачка мая адрозніць магла, дый яна — моцна памучаўшыся.

Калі мы сям'ёй хавалі Ванду і дачка плакала, бо ўсе мы любілі гэтую вясёлую варону, якая была часткай

нашага жыцця, Багрым на пахаванне не з'явіўся. Сышоў да брата... Падазраю, знішчыў ён саперніцу зусім не праз разыходжанні ў поглядах на творчасць і нават не праз яе насмешлівасць: гэтую прычыну ён для нас прыдумаў. А насамрэч расправіўся ён з варонай з-за рэўнасці. Таму што любілі мы Ванду не менш, чым яго, і заўсёды на яе баку былі, як асобы гэткай жа, як і Багрым, творчай, духоўна моцнай, але фізічна слабейшай.

Так, Багрым разумеў сёе-тое і ў такіх рэчах, як каханне і рэўнасць. Кот, але адчуваў...

У майго брата адносіны з жонкай сталі не складвацца: узнікла ў яе, як яна казала, паралельнае каханне. І вось з'яўляецца аднойчы гэтае каханне ў хату брата ў выглядзе лысакруглагаловага, як більярдны шар, джэнтльмена, які прыстойна, трэба прызнаць, паведамляе: так, маўляў, і так, у нас з вашай жонкай усё паралельна — і вы нам, брат, катастрафічна замінаеце, стоячы на шляху. Брат адказвае яму, як джэнтльмен джэнтльмену, што ў ім таксама каханне не астыла, таму ён не можа першаму, які патрапіўся, джэнтльмену, хай нават лысакруглагаловаму, жонку саступіць, а можа нават з-за гэтага застрэліцца, але калі ўжо так сталася, то страляцца ён пачакае, пакуль жонка сама не вырашыць, якім ёй ісці паралельным шляхам...

Вось такую вядуць яны цікавую гаворку, якую мы з Багрымам таксама чуем, паколькі брат мой у такіх справах слабак, мяне на дапамогу паклікаў, а Багрым за мной, як хвост, прычапіўся — і ляжыць сабе ўтульненька з братам сваім Багірам на каміне, каля якога і вядзецца вось такая нязмушаная, сямейная бяседа. І даволі доўгая, таму што жонка майго брата, якая ў нейкім сэнсе і наша з Багрымам сям'я, усё не знаходзіць у сабе здольнасці на нешта рашыцца. Паралельна — здольная была, а вось так, каб стаць на нейкі адзін-адзіны шлях, — не знаходзіць у сабе здольнасці.

Жонку майго брата, ні ёй і нікому ў тым не прызнаючыся, паколькі яна ўсё ж жонкай майго брата была,

Багрым любіў. І не толькі таму, што яна аліўкаў яму не шкадавала і ва ўсім, нават у відавочных правінах ягоных, нават у расправе з Вандай патурала, апраўдвала і абараняла. Было паміж імі, паміж мастаком-катом і дураслівай жанчынай, нейкае ўнутранае падабенства. Духоўная, як і з варонай Вандай, сувязь...

Такая, значыць, карціна, гэткая каля сямейнага агменю сітуацыя — і яшчэ трэба сказаць, што Багрым, натрэніраваўшыся на аліўках, някепска гуляў на більярдзе. Не кіем, вядома, бо ўсё-ткі кот з лапамі, але шары па стале ганяў і ў лузы іх закочваў — толькі сукно трашчала. А то раптам падамне пад сябе белы, які разбівае каляровую пірамідку, шар — і нібы знішчыць яго спрабуе, раструшчыць, разадраць ды згрызці ў незразумелай лютасці.

Усё тайнае, як вядома, рана ці позна становіцца яўным і незразумелае — зразумелым... Так і тут высветлілася, што для Багрыма гульня на більярдзе былы чымсьці накшталт баявых вучэнняў. Ён адпрацоўваў байцоўскія прыёмы на шарах, нібы загадзя бачыўся яму воблік чарговага, яшчэ больш небяспечнага, чым варона Ванда, ворага...

Такім чынам, каты вышэй, людзі ніжэй — утвараем мы маляўнічую групу, у якой, седзячы каля каміна, я пачуваюся ўсё больш ніякавата: дарма мяне брат паклікаў, дапамагчы нічым не магу. А жонка брата, каханая жанчына Багрыма, усё ніяк і ні на што не рашаецца, ні ў які бок не схіляецца. Тады лысакруглагаловы джэнтльмен раптам сам нахіляецца да яе, сам пры ўсіх яе далікатна цалуе і вытанчана кажа нешта накшталт таго, што ён, маўляў, павядзе яе адсюль не паралельным, а сваім, абраным ім, шляхам — і няхай тут усе разам з катамі хоць застрэляцца, хоць павесяцца, хоць што пажадаюць... І гэта былі, можа быць, апошнія ў ягоным жыцці словы, якія змог ён вымавіць не толькі вытанчана, але і выразна.

З нечуваным мною ні ад якіх катоў рыкам, ад якога папярэдні вораг Багрыма — варона Ванда магла б

скончыць жыццё інфарктам, Багрым кінуўся з каміна на лысакруглую галаву такога адкрытага ў сваіх пачуццях і гэткага самаўпэўненага ў сваіх рашэннях джэнтльмена, падмяў пад сябе белы шар, які разбіваў каляровую сямейную пірамідку, — і скура на галаве джэнтльмена затрашчала, як сукно на більярдзе... Не магу сказаць, колькі доўжылася ўсеагульнае здранцвенне, але часу, пакуль я здолеў адарваць акрываўленага Багрыма ад самай азартнай у ягоным жыцці більярдавай партыі, хапіла на тое, каб прыехала хуткая дапамога і павезла джэнтльмена ў лякарню цалкам непазнавальным. І нават тады, калі ён выйшаў з лякарні, жонка брата і каханая жанчына Багрыма яго не прызнала, завяршыўшы свой паралельны шлях. Бо як і куды можна ісці з кімсьці зусім непазнавальным — ды яшчэ заікастым, амаль нямым?.. Калі нават ён былы джэнтльмен.

Брат мой застаўся жывы, не застрэліўся, а джэнтльмен запатрабаваў ад мяне за каціна зверства немалую кампенсацыю, перададзеную яму без суда, з рук у рукі, бо ён заявіў, што бачыцца са сваёй былой каханкай ні на судзе, ні хоць дзе — праз яе здраду паралельнаму каханню — знешне не можа і ўнутрана не жадае. Судзіцца ж не з ёй, а са мной або з маім катом лічыць для сябе абразлівым. Так вось грубаматэрыяльна, адпрэчыўшы тонка-духоўнае, мы, як барыгі нейкія, непрыстойна разышліся, і такую заяву і гэткія паводзіны, якія сведчылі пра змену самой натуры джэнтльмена, я патлумачыў сабе тым, што ён страціў досыць шмат крыві.

О, так заўсёды: дзе каханне — там і кроў! І жарсць, і падман, і подласць, і здрада... А ўжо там, дзе смерць, і ўжо калі сваё ўласнае жыццё можна зратаваць за кошт жыцця кагосьці іншага — дык ад подласці са здрадай і пагатоў паратунку няма.

Але гэта сярод людзей. Не сярод жа катоў...

Багрым захварэў. Ні ў більярд не гуляў, ні смятану не еў, ні фокусы з аліўкамі не паказваў. Ляжаў на

гаўбцы на падваконніку і блякла, абыякава, маркотна сузіраў сусвет. Не на людзей і сабак, не на дрэвы і птушак глядзеў — у пустую прастору над гаўбцом. Быццам успамінаў і бачыў у той прасторы варону Ванду.

Сумна жыць на свеце без сапраўднага сябра, але сумна і без сапраўднага, ды яшчэ й развясёлага, ворага! Мне здалося, што Багрым гэта зразумеў, — і шкадуе, што зразумеў позна.

Ванда ўсім нам часта ўспаміналася...

Не было ў нашай сям'і звычкі: ледзь чхнуў — да лекараў кідацца. Толькі тады іх клікалі, калі самі ўжо ўстаць, каб дайсці да іх, не маглі.

Не кінуліся мы і да ветэрынараў. Ці мала што з катом — не ўпершыню. Сумам, маркотай, шкадаваннем захварэў, дый, магчыма, з'еў што-небудзь, застудзіўся...

З гэтым і пакінулі мы Багрыма ў хаце на братоў: на ягонага і на майго. З'ехалі ў адпачынак. У той савецкі час, калі ўжо нейкім неверагодным чынам дасталася вам сямейная пуцёўка ў прэстыжны Дом адпачынку на марскім поўдні, дык не да катоў было і не да ўсяго астатняга. Таму што ўсё астатняе, можа быць, калі-небудзь яшчэ і будзе, а яшчэ адной пуцёўкі на поўдзень у прэстыжны Дом адпачынку можа не быць ніколі. Нават напэўна, што не будзе...

Хай бы яе і не было — мяне з таго часу на ваніты цягне ад усяго прэстыжнага, як Багрыма ад мышэй.

Брат патэлефанаваў: у Багрыма, аказваецца, вадзянка, ён безнадзейны — і лепш за ўсё, каб не мучыўся, усыпіць.

Што рабіць?..

Адкуль мне ведаць, што рабіць, калі я не ведаю, што такое вадзянка? Памятаю толькі з жыццяпісаў Плінія, што, здаецца, Геракліт ад яе памёр. І што гэты надна разумны элін, зыходзячы з той філасофскай тэзы, што вада перамагае агонь, а значыць, з роўнай сілай павінна быць усё наадварот — лячыў вадзянку агнём. Забраўшыся на гару, сядзеў тамака на старажыт-

нагрэцкім, зусім не слабым, я мяркую, санцапёку і высушваў, высмажваў самога сябе, абклаўшыся, як шніцаль паніроўкай, каравякамі. Так што ці ад вадзянкі ён памёр, ці ад таго, чым і як яе лячыў, як бы і Плінію не дакладна вядома. Калі толькі нехта з Плініяў, старэйшы або малодшы, насамрэч цікавіўся, чаму гэта, залезшы на гару, узяў ды памёр Геракліт? Бо калі разабрацца, дык якая ў тым цікавасць? Што на гары, што пад гарой...

Але Багрым не Геракліт. Хоць у нечым і не дурнейшы.

Стаў я пытацца, як нам быць і што рабіць, у жонкі з дачкой, не аднаму ж усё вырашаць, на гару па санцапёку лезці, а яны і слухаць гэткіх размоў не сталі. Дачка крыкнула: «Ды не дасць ён сябе ўсыпіць! Вось пабачыш, што не!..»

І не выехаць, не вылецець нам з марскога поўдня — хіба што птушкамі пералётнымі. Таму што ў чэргах па квіткі на цягнік ці самалёт, як і па ўсё астатняе, людзі тоўпіліся ў тыя часы паўсюль падоўгу, а на поўдні марскім стаялі столькі ж, колькі адпачывалі. Там, у чэргах, пазначаныя нумарамі, як у канцлагеры, і папраўлялі здароўе, загараючы... Так што жыццё чарговае хоць і нясцерпна, але неўзаметку праходзіла. Без філасофскіх тэзаў.

Калі мы нарэшце вярнуліся, Багрыма не было. Брат, мой брат, якому так і не змаглі мы ўцямна адказаць, што ж яму рабіць, прыняў самастойнае рашэнне. Да нашага прыезду, каб меней слёз...

Але як іх будзе меней? Калі не было не толькі Багрыма, але і Багіра. Ён, можа, дзесьці й быў, ды ніхто не ведаў, дзе... Знік у той самы дзень і нават, атрымлівалася, у тую ж гадзіну, калі павезлі ўсыпляць Багрыма. Паўсюль шукалі, аб'явы расклейвалі — нічога.

Для мяне неспасцігальна было: як гэта Багір знік? Сам збег?.. Такім, якім я ведаў яго і разумеў, ён не мог збегчы. У адрозненне ад Багрыма, які толькі і гойсаў

па пасёлку, вышукваючы спажыву для гульні розуму, дамасед Багір з хаты ні лапай. Хіба што вясной, парою каціных вяселляў, на якія розум без патрэбы...

«І не падумаеш, што выкралі, каму здаўся гэтакі дурань?..» — сказала проста, каб сказаць нешта, жонка брата, а дачка наша, у яе нервовы стрэс з-за ўсяго гэтага стаўся, закрычала, як на поўдні: «Не дурань! Самі вы дурні! Ён без брата жыць не змог, забіўся, вось!..»

Мінаў, як лекар паўз хату, час, і паволі ўсё супакойвалася, прытухала, але тут сталі далятаць малавытлумачальныя весткі. Спачатку адна дама, якая карміла калісьці Багрыма аліўкамі, заўважыла яго ў лесапарку — і ён кінуўся наўцёкі, як толькі яе пазнаў. Потым яшчэ адна дама распавяла прыкладна тое самае, толькі казала не пра лесапарк, а пра млын — гэта немаведама дзе. Прычым абедзве дамы ў адзін голас сцвярджалі, што бачылі не Багіра, а менавіта Багрыма, і ў момант майго недаверу глядзелі на мяне прыблізна аднолькава: няўжо мы, па-твойму, такія дурніцы, што звычайнага ката ад ката незвычайнага адрозніць не можам?..

Ува мне міжволі зачаплілася надзея, а разам з ёй заварушыліся сумневы. Я нешта адчуў... — не тое, каб супярэчлівае, але нешта такое... — і запатрабаваў ад брата з братавай падрабязнага, ва ўсіх дэталях аповеду: як у той дзень, у тую гадзіну ўсё адбывалася? Нічога такога, за што можна было б зачапіцца, ні брат, ні братавая згадаць не змаглі. На свае вочы яны не бачылі, як ветэрынар, або хто там катоў на ўсыпленне цягае, Багіра забіраў. Бачылі, як ён ката ў мяшку нёс, але на тое, як адлоўліваў і забіраў, не глядзелі, не захацелі — каб усё гэта, значыць, без лішніх слёз... А Багрым, як мы і дамаўляліся, у нашай хаце жыў і хварэў, бо гойсаць, розумам гуляючы, па пасёлку — гэта колькі заўгодна, але ні ў якім іншым месцы жыць, а тым больш хварэць, ён не мог, і мой брат па чарзе з жонкай толькі прыходзілі за ім прыглядваць. Дзе ў

той момант, калі забіралі Багрыма, быў Багір, яны не памяталі. Не заўважылі, не да таго ім, бачыш, было. Спахапіліся толькі тады, калі выявілася, што Багір знік — і кінуліся бегаць і шукаць...

Я узяў з сабой свайго ёлупня-брата і паехаў з ім у ветлякарню.

Ветэрынар, якога паказаў мне брат, загарланіў, непахмельны: «Ды пайшлі вы са сваімі катамі! Тут людзі дохнуць, як мухі!..» Але калі я паставіў перад ім загадзя набытую пляшку, ён успомніў усё ў дэталях і падрабязнасцях. Ката ён, як і заўсёды, калі лячыць яго прыязджаў — за што брат мой, натуральна, плаціў, а інакш трэба было б Багрыма ў лякарню вазіць, дзе яго ўсыпілі б адразу ж, — знайшоў на гаўбцы. Прывёз сюды, а ўжо ўсыпляў не ён — тут ёсць каму ўсыпляць...

Знайшлі таго, хто «ёсць каму ўсыпляць».

«Іх столькі, што ў вачах мігцяць, але вашага зацеміў, — без намаганняў і гарэлкі ўспомніў гэткага росту мужык-вярнідуб, якому не катоў бы ўсыпляць, а сапраўды дубы выварочваць або дзіры кулаком у падземнае мышынае царства праломваць. — Я здзівіўся яшчэ: бачу ж, што здаровы! І дурань дурнем: у мяне смерць ягоная на канцы іголкі, а ён ляжыць, як блажэнны, і амаль не тузаецца».

«Навошта ж усыпілі?..» — самі ў мяне кулачкі мае сціснуліся, ды куды з імі супраць такога бамбізы — хоць бы і разам з кулачкамі брата.

«А што мне з ім рабіць было?.. — здзівіўся ён, шчыра не разумеючы, чаго я тут кулачкі сціскаю. — Усыпіць дык усыпіць, адным катом меней...»

Я змусіў сябе стрымацца: надта ўжо здаровы.

«А ў пахвіне плямкі маленькай, беленькай пад левай лапкай вы ў яго не заўважылі?..» — зазіраў я лісліва і безнадзейна ў вочы бамбізе, а ён глядзеў насустрач і скрозь мяне — як быццам не бачачы нікога, з кім можна было б пра нешта сур'ёзнае размаўляць. Клянчыцца тут перад ім нейкі прыдурак, які дазваляе

сабе меркаваць, быццам катам, якіх мярцвіць прывезлі, будзе ён яшчэ і пад хвасты зазіраць...

«У яго вадзянка была?» — адвёў я ўбок, ужо сыходзячы, ветэрынара, і той адказаў, пахмелены і таму падабрэлы: «У грудзях нібыта прастуквалася, так што па першым дыягназе, які не пацвердзіўся... а па другім дык менінгіт...»

Я асалапеў:

«Як менінгіт?..»

Мусібыць, я асалапеў так, быццам вырашыў, што ў такім разе Багрым, пакуль усе мазгі ў яго запаліліся б, мог бы жыць і жыць, і падабрэлы ветэрынар паспрабаваў, як умеў, супакоіць мяне: «Усё адно б здох... — а потым, дробна-дробна пачухаўшы за вухам, дадаў: — Хоць каты не людзі і хто іх, катоў, ведае... Знойдуць, бывае, траўку, ім патрэбную, і жывуць».

У лякарні не толькі я, але і брат мой нарэшце ўсё зразумеў — і адбылася ў нас вечарам за гарэлкай няпростая размова пра тое, што ёсць родная кроў і што ёсць крэўны брат, і пра ўсё такое...

«Які, аднак, нягоднік!.. — узрушана казаў брат, перакульваючы чарговую чарку. — Брата, роднага брата!.. Так падставіць!.. На смерць!.. Замест сябе!.. Ды я б!.. Цябе?.. Ды ніколі!..»

Я не мог, зразумела, апраўдваць Багрыма, які адправіў на смерць замест сябе даверлівага Багіра. Брат — гэта брат, ды няхай нават і не брат, а проста гэткі ж, як і ты, кот — не іншапляменная варона Ванда. І усё ж я адчуваў, саромячыся ў сабе гэтага, нейкае захапленне, і, калі б раптам Багрым з’явіўся, я б адразу яго расцалаваў, а потым ужо дзерці б стаў да смерці. Ну, не да самой...

Але Багрым не з’явіцца. Бо мазгамі сваімі, настолькі разумнымі, што іх запаліў менінгіт, думае, быццам ведае пра нас больш, чым усе іншыя каты разам узятыя. Ён, кот, упэўнены, што мы, людзі, істоты адухоўленыя, з мараллю і прынцыпамі, Божыя падабенствы і ўсяля-

кае такое, даравалі яму Ванду, бо яна іншапляменная, але ніколі і ні за што не прабачым яму аднапляменнага, адзінакроўнага брата, не даруем подласць — і задзярэм да смерці! Таму сышоў і не вернецца... Калі нават знайшоў цуд-траву.

Як мала ведаюць пра нас каты...

Каб пазбавіцца ад гэтых няўтульных думак, я, быццам насамрэч дурань апошні, перакінуўся з таямніцы кацiных адносін на таямніцу адносін людскіх, пачаўшы раптам згадваць усе, аж ад дзіцячых, крыўды і вінавацiць брата ў тым, што ён, ёлупень гэтакі... і зноў жа ўсялякае такое... і што праз яго, ёлупня, і праз жонку ягоную, курву, мы страцілі двух неверагодных, фантастычных, найлепшых у свеце братоў-катоў!.. Тут і брат трываў-трываў ды не вытрываў, ускрыўдаваў на крыўду, ускочыў:

— Які ты мне брат?!.

Я адчуў сябе так, быццам брат мой з жонкаю ў акне, нібы за шклом, і жонка брата з-за шкла глядзела — толькі шрубалётам не вісела, крыламі і хвастом не круціла, у морду каркаючы: «Брат знайшоўся!.. Бачылі мы такіх братоў!..» І як ніколі раней, я адчуў, зразумеў, якія мы з родным братам чужыя, што нікому я гэтак, як брату, не чужы, і мне ніхто не чужы так, як брат...

Багрым, як я й меркаваў, не вярнуўся. Магчыма, ён памёр, не знайшоўшы выратавальнай цуд-травы. Магчыма, зусім не яго бачылі мае знаёмыя дамы, ці мала падобных чорных катоў — усё магчыма... Знайсці яго, як доўга ні шукаў, я не змог — і не ведаю, дзе заспакоілася, калі і куды адляцела ягоная хітрая, грэшная, але, нягледзячы ні на што, родная душа.

Душа брата.

*Снежань 2002 — люты 2003 г., Хельсінкі*

## *ВЫГНАННЕ РАКА*

У майго стрыечніка рак знайшлі, а ён, стрыечнік, нібыта вернік, дык кажа: «Мне не страшна паміраць, мяне Бог прыме». Я пытаю: «Ты хоць ведаеш, калі ў Бога прыёмныя дні?» Ён давай хрысціцца: «Не кажы так, бо з мёртвых не ўваскрэснеш». А чаго мне ўваскрасаць, калі я жывы? Памру — пабачым.

Я не прыкідваюся, нібы смерці не баюся. Яшчэ як! І ўжо калі паміраць давядзецца, дык так, каб са мной — усе. Ну, вайна атамная, выбух нейкі на сонцы ці камета. Тады нармальна. Справядліва. А то я памру, а стрыечнік з ракам жыць будзе.

Стрыечнік кажа, што ён не такі, як я, і яму не хочацца, каб з ягонай смерцю да ўсіх на зямлі смерць прыйшла. Няхай ніхто не памірае, дык тады, можа, і ён не памрэ.

«Як гэта, — пытаю, — няхай ніхто не памірае? Калі б Цімох Цівунчык не памёр, які да таго, як памерці, брыгадзірам быў, дык як бы ты заняў ягонае месца?» Тут ён не знайшоў, што адказаць, бо калі б Цівунчык не памёр, дык брыгадзірам мой стрыечнік не стаў бы. Ну, ніяк.

Ён таксама паміраць баіцца, толькі храбрыцца. Не баяўся б, дык не трызніў бы ўваскрашэннем. Не маліўся б дваццаць разоў на дзень: «Божа, зратуй! Божа, дапамажы!..» І калі пачуў, што недзе дзед ёсць, які рака выганяе, давай таго дзеда шукаць. Знайшоў і папрасіў мяне падвезці. Бо ў мяне машына, а ў яго няма. Хоць ён кажа: «Я з Богам — і ў мяне ўсё ёсць». Ну як усё ёсць, каля няма машыны? Дзе машына, калі ўсё ёсць?

Той дзед на хутары пад самай Літвой жыве. У такой глухмені, што не дабрацца. Нам дарогу паказваюць, а ў тым баку, куды паказваюць, няма дарогі. Лес. За мяжу па лесе заехалі — во мяжа! — літоўцы кажуць: нічога пра вашага дзеда не ведаем. У нас свой дзед, які рака выганяе. Я пытаю стрыечніка: «Дык, можа, да іхняга дзеда? Які-ніякі, а замежны». — «Не, — кажа, — давай да нашага. А то мяжу перайшлі, літоўцы яшчэ арыштуюць». Што яго рак высмакча — яму не страшна, а што літоўцы арыштуюць — баіцца. Дзе логіка?

Арыштуюць — дык жыві ў Літве. Пі ў Вільні піва з ракамі.

Вярнуліся, знайшлі нашага дзеда. Сказалі яму пра літоўскага, ён махнуў рукой: маўляў, махляр. Стрыечнік кажа: «Бачыш? Добра, што вярнуліся».

Што вярнуліся, добра, бо памежнікі прыйшлі: «Вы з Літвы?» — «Не, — адказваем, — не з Літвы». — «А машына ў бок Літвы ніякая не праязджала?» — «Не, — адказваем, — не праязджала». — «А з таго боку?» — «Не». — «Калі раптам праедзе, скажыце». І пайшлі.

Во памежнікі!

Дзед здзівіўся, што мы здзівіліся. «У нас, — сказаў, — здаўна так. Людзі людзям на слова верацьь». Я не вытрываў: «Дзед, мы ж толькі што пры табе зманілі! І ты зманіў!» А дзед у адказ: «Чаму зманіў? Я ў Літве не быў».

Да дзеда мы надвячоркам дабраліся, а рака, ён сказаў, трэба з раніцы выганяць. Бо на ноч рак не выйдзе, чаго яму на ноч выходзіць?

Селі вячэраць. Выпілі гарэлкі, пачалі гаворку. Стрыечніку майму цікава, як дзеда ў такую глушэчу жыццё закінула. Дзед кажа: «Партызаніў тут і застаўся». Я пытаю: «Як ты мог партызаніць? Табе колькі гадоў у вайну было?» А ён: «Я партызаніў пасля вайны». — «Як, — пытаю, — пасля вайны? Пасля вайны тут немцаў не было!» А ён: «Дык я не супраць немцаў партызаніў».

Я ледзьве ўцяміў, пра што ён. Як гэта не супраць немцаў? Тады супраць каго? Не супраць жа французаў у 1812 годзе? Потым дайшло: супраць, значыць, нашых! Лясным братам быў! І адкрыта пра тое кажа! Хаця чаго яму баяцца пры такіх памежніках?..

Тут яны, памежнікі, зноў прыходзяць. Гэтым разам з сабакам. «Вы, — пытаюць, — з Літвы?» — «Не, — адказваем, — не з Літвы». — «А машына ў бок Літвы ніякая не праязджала?» — «Не, — адказваем, — не праязджала». — «А з таго боку?» — «Не». — «Калі раптам праедзе, скажыце». І пайшлі з сабакам.

Вось чаго яны з сабакам прыходзілі?..

Начаваць нас дзед у пуні паклаў. Гонта на даху ў такіх дзірах — усё неба відаць. А ў найбольшай дзірцы над стрыечнікам — якраз сузор'е Рака. Стрыечнік спаць не дае, ляжыць ды ўздыхае. «Чаго ты, — пытаю, — не спіш?» Хоць ведаю, чаго. «Вунь у небе, — уздыхае стрыечнік, — рак, як і ўва мне. А яно ж не памірае».

Во! Ён хацеў бы, каб разам з ім не толькі зямлі, але й неба не стала! А яшчэ будзе казаць, што ён не такі, як я. Вернік...

Прачнуліся, не спаўшы. Учора тым, што ў нас было, павячэралі, а снедаць дзед не запрашае. «Рак, — кажа, — галодны мусіць быць. Тады лепей выганяецца».

Сталі рака выганяць. За пуняй балея з нейкай зялёнай, смярдзючай вадой на агні ўжо стаяла, дзед напаіў стрыечніка той вадою і кажа: «Залазь. Рак як адчуе, што жыўцом варыцца, так з цябе і вывернецца. Ты толькі трывай, не выскоквай».

Страечнік стаў у балеі ракам, дзед загадаў мне дровы падкідваць. Я падкідваю, дзед трымае стрыечніка, каб не выскачыў, ды прыгаворвае:

Рака выганяю,
Цела ачышчаю

Ад хваробы, ад бяды
Да чыстай вады... —

і з галавой стрыечніка ў балею з гэтай «чыстай» вадой! Патрымаў, даў дыхнуць, пасля зноў: «Рака выганяю...» — і зноў з галавой у ваду: бух! Стрыечнік мой чырвоны, як рак, яго той смярдзючай вадой у тую смярдзючую балею ванітуе, а дзед топіць яго раз за разам: «Рака выганяю, цела ачышчаю...» Я думаю: «Цела, можа, і ачысціць, але душу Богу аддасць...» — і падкідваю дровы, каб хутчэй яно ўсё скончылася, каб стрыечнік, з якога ўжо дух выходзіць, доўга не мучыўся, а тут дзед раптам як закрычыць: «Ёсць! Выгналі! Во ён, гад печаны!..» — і выцягвае рака з балеі.

Штукарства дзедава мяне ўразіла, але ж не настолькі, каб я рака, з якім піва п'юць, прыняў за рака, праз якога паміраюць. «І ты хочаш сказаць, — пытаю дзеда, — што гэты рак з майго стрыечніка — і стрыечнік мой цяпер здаровы і не памрэ?» Дзед галавой круціць: «Не зусім. Каб ён не памёр, трэба рака гэтага пакласці ў труну да нябожчыка. Пажадана свежага, каб не адны косткі. Тады рак зжарэ мёртвага, а стрыечнік твой застанецца жывы».

Стрыечнік мой нарэшце ачомаўся, глядзіць і не ведае, жывы ён ці мёртвы. Чырвань з яго паціху спадае — і яго ўсё болей на зелень б'е. А тут памежнікі зноў прыходзяць: «Вы з Літвы?» — «Не, — адказваем, — не з Літвы». — «А скуль во гэты зялёны?» Так пытаюць, нібы ў Літве ўсе зялёныя. Дзед кажа: «Ён з балота». Памежнікам і пытаць болей няма пра што. «Можа, сабаку нашаму, — просяць, — што-небудзь дасцё. Следу не чуе галодны».

Я ўзяў і кінуў сабаку рака. Са злосці. Каб дзед нам галаву тым ракам не дурыў. А сабака панюхаў і не стаў есці.

«Бачыце, — забраў рака ў сабакі і аддаў стрыечніку дзед. — Я ж вам казаў: гэта не той рак, якога ядуць,

а які сам усіх з'ядае. Так што шукайце свежага нябожчыка».

Ну, калі так... Я адразу пра Цівунчыка падумаў. Пра брыгадзіра. І стрыечнік падумаў пра яго, бо пра каго яшчэ? Хоць ён не надта свежы, але свяжэйшага няма.

— А калі, — спытаў дзед, — ваш брыгадзір памёр? Сорак дзён не прайшло?

Мы палічылі: прайшло. Якраз учора. І дзед рукой махнуў: «Э, не... На саракавы дзень душа адлятае. А без душы раку няма смаку».

Стрыечнік мой яшчэ больш пазелянеў: «Дык што рабіць?..» І тут адзін памежнік кажа: «У літоўцаў сёння ўночы дзед памёр, які рака выганяе. Вам не падыдзе?»

Во табе маеш!.. Наш дзед проста расквітнеў — такі рады, што ён адзін на ўсё памежжа лекарам, які рака выганяе, застаўся. Кажа: «Яшчэ як падыдзе! Самае тое!..»

Можа, і самае тое. Але ж гэта літоўскі дзед і ён у Літве памёр. А памежнікі праз мяжу не пускаюць. Самі ж не пускаюць і самі ж пытаюць, ці замежны дзед нам не падыдзе.

«А вы...» — пачаў па кішэнях грошы шукаць, каб хабар даць, стрыечнік, і першы памежнік адвёў яго ўбок, а другі, пачакаўшы, спытаў: «Вы ў Літву з ракам?» — «З ракам». — «Даведка на рака ёсць?» — «Якая даведка?» — «Медычная. Што не хворы». — «Ды ён здаровы!» — «А чаму галодны сабака яго не жарэ?» — «Сабака, можа, не такі ўжо галодны!» — «А рак, можа, не такі ўжо здаровы! Так што чакайце, пакуль не літоўскі, а наш дзед сканае».

Во памежнікі! І хабар узялі — і ў Літву не пусцілі!.. А дзед рукамі развёў: маўляў, што магу — тое магу, але паміраць дзеля вас — выбачайце.

Забралі рака ў балеі, паехалі ў Менск. Вада ў балеі плёхае, выліваецца, рак б'ецца аб бляху галавой. Стрыечнік каля кожнай рачулкі штурхае мяне: «Стой!»

Цягне балею ўніз, дабірае вады, цягне ўверх — сам гатовы галавой накласціся, абы рак не здох. Дома пусціў таго рака ў ванну — і стаў чакаць, калі хто-небудзь памрэ.

Тыдзень прамінае, месяц, другі... Ніхто не памірае! Ні на бетонным заводзе, дзе мы працуем і дзе стрыечнік брыгадзір, ні ў доме, у якім жывём. Ні радня, ні чужыя. Стрыечнік да ўсіх прыглядаецца, кажа: «Ніколі не падумаў бы, што людзі так доўга жывуць».

Надзею ён на галоўнага бухгалтара меў, які ў гадах быў і ледзь хадзіў. Кадыхаў так, што, здавалася, яшчэ раз кашляне — і сканае. Стрычнік штодня з раніцы ў бухгалтэрыю: «Як вы, Вадзім Міронавіч, пачуваецеся?..» І пад вечар таксама ў яго клопат пра здароўе бухгалтара. Той кадыхае, жаліцца: «Ой, усё баліць!..» — а паміраць не памірае. Пасля нешта западозрыў, крычаць пачаў: «Што вы да мяне па два разы на дзень ходзіце, нібы чакаеце, калі памру!» Крычыць, задыхаецца, а стрыечнік ходзіць, пытаецца — і ўрэшце давёў: у шпіталь бухгалтара паклалі. Стрыечнік назаўтра да яго з кефірам — яму ж вынік патрэбны. І вынік быў, але не той, які чакаўся: галоўны бухгалтар, каб ніколі болей не чуць і не бачыць стрыечніка, выпісаўся са шпіталя, падаў заяву на пенсію і з’ехаў да дачкі ў Сыктыўкар. А дырэктар завода прэмію стрыечніку выпісаў. З радасці, бо толькі пра тое і марыў, каб ад старога галоўнага бухгалтара пазбавіцца і маладую галоўную бухгалтарку ўзяць.

Чыёсьці гора — нечая радасць. Стрыечнік прэмію атрымаў і кажа: «Во, грошы на бензін ёсць, паехалі ў Сыктыўкар».

Чаму не з’ездзіць, калі на бензін грошы ёсць? Тым больш, што Сыктыўкар хоць і далёка, але не ў Літве, і мяжа хоць і ёсць, але ўмоўная.

Узялі рака, які ледзьве ў балею ўлез, так стрыечнік яго адкарміў, і паехалі. Вада ў балеі плёхае, выліваецца, рак б’ецца аб бляху галавой. Стрыечнік каля

кожнай рачулкі штурхае мяне: «Стой!» Цягне балею ўніз, дабірае вады, цягне ўверх — сам гатовы галавой накласціся, абы рак не здох. Я думаю: «Гэта ж колькі мы так ехаць будзем да таго Сыктыўкара? Ракі колькі жывуць?..»

Даехалі да ўмоўнай мяжы за Воршай, а на той умоўнай мяжы — памежнікі з сабакам. Самае цікавае, што яны расійскія, але тыя самыя, што і на літоўскай мяжы. «Вы, — пытаюць, — у Літву праз Расію?» — «Не, у Сыктыўкар». — «З ракам?» — «З ракам». — «А даведка на рака ёсць?» — «Якая даведка?» — «Медычная. Што не хворы». І глядзяць на стрыечніка, а той не спяшае хабар даваць. Навучаны. Толькі размову падтрымлівае: «Ды які хворы? Паглядзіце, які здаровы!» — «Вось зараз і паглядзім. Калі сабака не стане есці, дык хворы». І вывернулі рака з балеі. Сабака перапудзіўся, такое страшыдла ўбачыўшы, адскочыў і здаля гаўкае. «Бачыце, — кажуць памежнікі. — З таго часу галадае, як мы на літоўскай мяжы сустрэліся, а не есць. Так што не можам прапусціць». — «А каб з'еў, дык прапусцілі б?» — «Прапусцілі б». — «Каго? З'едзенага рака?..»

Во памежнікі!..

Налілі вады ў балею, павярнулі назад. Вада ў балеі плёхае, выліваецца, рак б'ецца аб бляху галавой. Стрыечнік кажа: «Гэта ж колькі б мы так ехалі да таго Сыктыўкара! Ракі столькі не жывуць..»

Пакуль туды, пакуль сюды — ноч праездзілі. Пад'ехалі да завода пад раніцу — усе якраз на працу йдуць, і новая галоўная бухгалтарка з усімі. Маладая, але такая худая, нават не худая, а высахлая і, як смерць, белая — ледзьве цягнецца. Стрыечнік паглядзеў на яе і кажа: «Добра, што вярнуліся».

Што вярнуліся, добра: дырэктар памёр. Застаўся ў кабінеце пасля працы з новай галоўнай бухгалтаркай — і вынеслі з кабінета. Ніхто падумаць не мог —

такі здаровы быў. А як касой скасіла. Нездарма тая бухгалтарка, як смерць, белая была.

А стрыечнік жыве. Да бухгалтаркі штодня заходзіць: «Як вы, Нэла Нічыпараўна, пачуваецеся?..» Вось чаго яму хадзіць да яе, калі рака з яго выгналі і з дырэктарам пахавалі?..

*Чэрвень 2012 г., Мінск*

## *ЛОКУСЫ*

«Ой, хлопцы, вы мне болей не налівайце, я ўжо такая, якая вам трэба!..» — казала яна, і ўсе смяяліся.

Потым яны згвалцілі яе.

Лявон нават не помніў, ці ўдзельнічаў у гэтым. Такі быў п'яны. Але заяву ў міліцыю Надзея, гэтак яе звалі, напісала на ўсіх чатырох — і ён адсядзеў чатыры гады.

Калі выйшаў, сустрэў Надзею. Выпадкова, на вакзале. Убачыўшы, па вачах пазнаў, больш не па чым. Такія ў яе былі вочы, ну... Як быццам помніў ён іх аднекуль — з нейкага ўтульнага месца, нейкага светлага часу. Але не думаў падыходзіць: чаго? Каб пачуць тое, што чуў на судзе? Калі нават суддзя яе супакойваў: «Пры чым тут фашысты?..»

Яна падышла сама. Прывіталася: «Як ты?..» — «Нічога... А ты?» — «І я нічога».

Да цягніка і ў яго, і ў яе быў час, яны зайшлі ў кавярню. Ехала яна ў Мінск, дзе вучылася на доктарку. Сказала, што ў яе дзіця. Сын. Ад некага з іх чатырох. І прапанавала, калі ён хоча, здаць аналіз на бацькоўства. Гэта дорага каштуе, але ў яе сяброўка ў лабараторыі, і там зробяць за так.

Ён спытаў: «Каб аліменты плаціць?..» — і яна паднялася: «Каб ты бацькам стаў! А не хочаш — не трэба».

Калі б яна так не сказала, ён бы й забыўся на гэта. Нашто яно яму? Пасля турмы на працу нармальную не ўладкавацца. Жытла, бо бацька памёр, а маці мужыка ў хату пусціла, няма. Жыў на кватэры, перабіваўся выпадковымі заробкамі. І здаваць аналіз на бацькоўства? Бо сяброўка ў лабараторыі — і зробяць за так?

Але вось жа запала гэтае: «Каб ты бацькам стаў!» Хоць хіба гэтак бацькамі становяцца? Праз лабараторыю?

Прамінуў месяц, другі... Надзея не шукала яго. Ён сам падпільнаваў яе на тым жа вакзале. Яна спытала: «У цябе ўсё добра?..» І калі ён кіўнуў, развіталася. «Выбачай, спазняюся на цягнік...»

Цягніка ў той час не было.

«Не дык не», — вырашыў ён. Але тое, што запала, не адпускала. Усё часцей думалася пра сына, уяўлялася, які ён. Падобны да яго? Ясна, што падобны, калі сын. Хоць усялякае бывае, сам ён на бацьку зусім не падобны. Ну, быў, пакуль бацька не памёр. Цяпер тым больш не падобны.

Хоць падобны, не падобны — якая розніца? Калі сын — гэта сын, а бацька — бацька.

Ягоны бацька толькі лічыўся бацькам. Лявон у ягоным пашпарце запісаны быў. А больш нідзе. Ну, там, дзе ў бацькоў дзеці запісаныя. У душы там, у сэрцы...

Гэтага не было. І калі бацька памёр, Лявон не шкадаваў. Падумаў, абыякава астылы лоб цалуючы: «Мой сын, калі памру, пашкадуе».

На трэці дзень па смерці бацька яму прысніўся. «Ты пра мяне не пашкадаваў — і пра цябе ніхто не пашкадуе. А калі нават нехта пашкадуе, дык не сын. Не будзе ў цябе сына!»

Лявон спытаў: «А ў цябе быў?..» — і бацька не адказаў нічога. Расплыўся, прапаў. І больш не сніўся. Але кожны раз, успамінаючы яго, Лявон чуў: «Не будзе ў цябе сына!» Дык ён і прывык, што не будзе. Тужліва гэтак, балюча, але прывык.

І вось...

Неяк Віталік да яго завітаў. Адзін з чатырох, з якім гвалцілі. Выпілі, паўспаміналі. «А ты, Лявоне, дарма адсядзеў. Ні пры чым быў, спаў п’яны. Даруй, што я на судзе прамаўчаў. Следчы сказаў: станеш за яго сведчыць — забярэш ягонае сабе. Праз нешта ён

злаваў на цябе. Цяпер я ведаю, што нічога б твайго не забраў, а тады спалохаўся: навошта мне чужое?»

Віталік таксама сустракаўся з Надзеяй, і Лявон спытаў, ці казала яна пра якія-небудзь аналізы. Той нават не зразумеў: «Пра якія? Следчы ж правяраў: не было ў яе ніякай заразы. Інакш бы так маглі выкруціць, нібы зараза ад нас, і нам бы не па чатыры гады ўпаялі».

Былі яшчэ Яўген з Алегам, але ён не стаў іх шукаць і распытваць. Паехаў у Мінск. Знайшоў Надзею ў яе інстытуце, яна завяла яго да сяброўкі ў лабараторыю. Тая ўзяла кроў, скабянула знутры шчакі, стрыганула пазногаць. Праз тры дні сказала, што ён бацька.

Як гэта?.. Ясна, што згаварыліся. І ён папаў на аліменты. Як лох канчаны.

«Вось, — тыцкала пальцам у паперку з аналізамі лабараторная сяброўка. — Усе локусы супалі. Сумневу быць не можа».

Якія локусы, калі Віталік сказаў, што ён п'яны спаў?..

Ён чакаў, што Надзея з паперкай той, з тымі локусамі ў суд па аліменты пабяжыць, а яна не пабегла. «Хочаш, — спытала, — парву?» І парвала.

Ён сабраў парванае і склеіў. Каб сыну, калі вырасце, паказаць. Бо раптам пасварыцца з ім Надзея. Развядзецца, зазлуе і скажа, што ніякі ён не бацька. Дык як дакажаш?.. А локусы (ён пачытаў пра іх) — гэта локусы. Калі нават не ўсе яны супалі. А тут — усе. Жалезны доказ.

Адно не зразумела: навошта Віталік прыдумаў, што Лявон ні пры чым, што спаў п'яны? Можа, думаў, што не Лявонавы, а ягоныя локусы супадуць?..

Склеіўшы паперку, ён папрасіў Надзею паказаць сына. Той не быў да яго падобны, але звалі яго Лявонам. «І гэта таксама, — ён падумаў, — локус, які супаў».

Калі пашлюбаваліся, сталі жыць у яе бацькоў. Тыя, вядома, касавурыліся, асабліва цешча: «Во прыдумала! За гвалтаўніка свайго пайсці!..»

Але трывалі.

Аднойчы бацька Надзеі, калі выпівалі і нікога дома не было, дастаў з шафы фотаздымкі. На адным з іх Лявон пазнаў сябе: у выпускным класе нясе на плячах дзяўчынку са званком у руках.

— Пазнаеш? — спытаў цесць, і Лявон пазнаў не толькі сябе. Надзею. Па вачах пазнаў, больш не па чым.

— І вось яшчэ, і вось яшчэ, і вось... — выкладваў і выкладваў цесць фотаздымкі на стол. — Яна ў пятым класе ўпрасіла мяне «Змену» купіць. А цябе кахала з першага. Гэта, бачыш, калі ты ў інстытут паступіў. А гэта пасля...

Лявон выйшаў у двор, сеў на лаву, закурыў. Падумаў, дымам зацягнуўшыся, ад якога раптам так, як ніколі, галава закружылася: «Локусы-шмокусы...»

І ўсхліпнуў. Не сказаць, што заплакаў, але ўсхліпнуў, уткнуўшыся ў жывот Надзеі, якая падышла, дахаты вяртаючыся: «Чаго ты тут сядзіш?..»

*Лістапад 2015 г., Мінск*

## ЦАР ЗЯМЛІ

Лапік зямлі, на якім Тодар Цыркун зляпіў з аполкаў ды фанеры сваё лецішча, дастаўся яму выпадкова. Яшчэ за савецкім часам у міністэрстве фінансаў, дзе ён працаваў рэвізорам, стварыўся дачны кааператыў «Фінансіст», у які Тодар не збіраўся ўступаць, бо лецішча яму без патрэбы было, а Салівей, швагер ягоны прапанаваў: «Вазьмі зямлю, я лецішча сабе збудую, а ты будзеш на шашлыкі да мяне ездзіць». Ну, швагер, якая ні ёсць, а радня, брат жонкі, дык тая прычапілася: «Вазьмі, вазьмі...» — Тодар і ўзяў. І гэтакі файны ўчастак у шэсць сотак па жэрабю яму выпаў — якраз паміж лесам і возерам. Тодар нават пашкадаваў, калі ўбачыў тую прыгажосць, што за нейкія шашлыкі яна швагру дастанецца. Дык нічога швагру і не дасталася. Ён толькі слупоў з аполкамі нацягаць паспеў, каб плотам шэсць сотак абгарадзіць. Укапаў першы слуп — і на тым скончыў не на сваёй зямлі гаспадарыць. Ад шчасця, што гэтакі ўчастак на халяву ўрваў, сэрца парвалася. Такі сквапны быў чалавек. Наўрад ці Тодар шашлыкоў ягоных дачакаўся б.

Сямён Сурмач, які таксама рэвізорам міністэрства фінансаў быў і якому ўчастак побач з участкам Тодара па жэрабю выпаў, зяця меў. Зяць ягоны на дрэваапрацоўчым камбінаце, дзе фанеру вырабляюць, галоўным тэхнолагам працаваў. Дык столькі фанеры той зяць накраў, што падзець не было куды — хоць спальвай яе, шашлыкі смажачы. Увесь участак фанерай завалілі, яна пад дажджом чарнець пачала, таму Сямён і адшкадаваў Тодару сорак лістоў, самых пачарнелых, а выгляд зрабіў, нібы даў праз сяброўства. З той фанеры,

накрадзенай зяцем Сурмача, ды аполкаў, нацяганых нябожчыкам шваграм, Тодар і зляпіў сваё лецішча. Выглядала яно так сабе, але ўсе глядзелі не на фанеру з аполкамі, а дзівіліся на лес ды возера і зайздросцілі Тодару: «Якое ў цябе, Тодар, лецішча! Гэтакі рай, мусібыць, на небе ў Госпада...»

Наста, дачка Тодара, якая вучылася ў школе з мастацкім ухілам, намалявала лецішча з лесам ды возерам і назвала карціну «Рай». Лес і возера былі падобныя на лес і возера, а лецішча — на лятаючую талерку, над адным з круглых вокнаў якой было напісана паўкругам «Цар Зямлі», а з таго акна сумна глядзеў Салівей, швагер Цыркуна, з зоркай Героя Савецкага Саюза на лобе. Гэта, мусібыць, каб яго ў рай прапусцілі, бо так — за што?..

Карціну ўзялі на конкурс юных мастакоў, нехта ўбачыў у зорцы на лобе швагра «савецкую свядомасць, ад якой грамадства пазбавіцца толькі тады, калі апошняга "саўка" забярэ ў ягоны камуністычны рай лятаючая талерка» — і Наста, «чатырнаццацігадовая мастачка з незвычайна глыбокім для яе ўзросту мысленнем», усіх перамагла. Прыйшла дахаты з прызам, бронзавым пэндзлем на мармуровай падстаўцы, і грымнула тым прызам так, што на стале лак патрэскаўся: «Што, саўкі засраныя! Каму цяпер не пазней васьмі вечара дома быць?..»

Мальвіна, жонка Тодара, праз перамогу дачкі ашалела ад шчасця і, як усе шчаслівыя жанчыны, ні пра што, апроч шчасця, не думала, а Тодар, які рэвізорам быў, спрабаваў уцяміць: дзе і ў чым глыбіня мыслення, за якую Наста займела гэткі салідны, мармурова-бронзавы прыз?

— Ну, добра, — тыкаў ён пальцам у зорку на лобе швагра. — Няхай гэта савецкая свядомасць, ад якой грамадства пазбавіцца толькі тады, калі апошняга «саўка» забярэ ў ягоны камуністычны рай лятаючая

талерка. Але чаму тут напісана «Цар Зямлі»? Хто цар зямлі? Швагер? Салівей?..

Наста адмахвалася: «Ды не ведае ніхто, што гэта твой швагер Салівей! Гэта вобраз!..» Яна і дагэтуль з бацькам коратка размаўляла, а пасля таго, як займела славу мастачкі з незвычайна глыбокім для яе ўзросту мысленнем, стала размаўляць яшчэ карацей.

Як гэта ніхто не ведае, што Салівей — Тодараў швагер? У кааператыве шмат хто ведае, у міністэрстве. Сямён Сурмач ведае, зяць Сямёнаў таксама.

Учора, як заўсёды ў суботу, яны пляшку ўзялі, запрасілі Тодара па-суседску пасядзець. Тодар пайшоў, бо як адмовішся, калі суседзі, хоць не надта любіў сядзець з імі — і ўвогуле ні з кім ні сядзець, ні ляжаць, ні стаяць не любіў. Чакаеш ад людзей аднаго, а маеш зусім іншае, кожны лезе са сваім. А што мне тваё — мне сваё цікава.

Мальвіна кажа: «Дык і сядзеў бы з самім сабой». Ён і сядзеў бы, калі б яшчэ нехта быў гэтакі самы, як ён.

Тодар не лічыў сябе лепшым за ўсіх, не. Ён проста лепш за іншых бачыў недахопы як асобных людзей: міністра фінансаў, ягоных намеснікаў, загадчыкаў аддзелаў, намеснікаў загадчыкаў аддзелаў, рэвізораў, старшыні дачнага кааператыва, — гэтак і ўсяго чалавецтва.

Вось у чым праблема чалавецтва? Надта шмат у людзях рознага — вось у чым праблема. Як вонкава, гэтак і знутры.

Неяк яму прыснілася: усе ў іх дачным кааператыве фінансісты — і усе такія самыя, як ён. Прозвішчы ды імёны, каб не блытацца, розныя: Сурмач, Салівей, — але па сутнасці ўсе Тодары Цыркуны. У міністэрства прыйшоў — там таксама ўсе Цыркуны. І міністр Цыркун, і ягоныя намеснікі, і загадчыкі аддзелаў, і намеснікі загадчыкаў аддзелаў, і рэвізоры. Усе адзін аднаму ўсміхаюцца, ніхто адзін аднаму не зайздросціць, ніхто адзін пад аднаго не капае, ананімкі не

піша, бо як будзеш пад сябе самога капаць і ананімкі пісаць на самога сябе? А галоўнае: усе ўсё гэтаксама, як ты, разумеюць, усе згодныя з табой, ніхто адзін з адным не вадзіцца, не б'ецца — вось вам і мір ва ўсім свеце. Усе любяць адзін аднаго, як саміх сябе. Няма вайны, няма тэрарызму — толькі росквіт чалавечай цывілізацыі. Рай.

Тодар паказаў карціну «Рай» Сурмачу і ягонаму зяцю, дык сам Сурмач нічога не сказаў, а зяць ягоны здзівіўся: «Чаму яна Салівея, а не вас царом зямлі намалявала?..»

Вось з гэтым зяцем Сурмача можна іншым разам пасядзець. Ён хоць і маладзейшы, але болей падобны на Тодара, чым сам Сурмач. Абсалютна тое самае, якое і Тодар самому сабе, пытанне задаў. «Чаму яна дзядзьку свайго, а не бацьку царом зямлі намалявала?..»

Вось у чым праблема, а не ў тым, што вобраз. Бацька хіба вобразам не можа быць?

Мальвіна кажа: «Ты родны бацька — ён родны дзядзька. Якая розніца? Яна любіла Салівея, ён і маляваць яе вучыў...»

Як якая розніца? Нічога сабе: бацька і дзядзька — розніцы ніякай! Наста што: ад дзядзькі нарадзілася? Паглядзелі б, якая б яна ад Салівея мастачка была!

«Ты зусім здурэў!..» — сказала на гэта Мальвіна, а Тодар, не дамогшыся разумення ні ад жонкі, ні ад дачкі, узяў фотакартку, якую на пашпарт рабіў, кругла выразаў свой твар і ўмайставаў яго ў ілюмінатар касмалёта на карціне «Рай», роўненька заклеіўшы твар швагра.

Выйшла куды лепш, чым было.

Было гэта вечарам у суботу, калі Тодар ад Сурмачаў вярнуўся, а назаўтра, ноччу з нядзелі на панядзелак забліскала ў вокнах незвычайнае, калючае нейкае святло, ад якога Тодар прачнуўся і ўбачыў пасярод сваіх шасці сотак лятаючую талерку — якраз на градах з клубніцамі. Праз люк каля самага дна з талеркі

выскачылі двое, адзін у чырвона-белым, другі ў чырвона-зялёным шлеме, падышлі да дзвярэй і пастукалі. Адчыняць ім паднялася заспаная Мальвіна: «Хто там?.. Вам што?..» — і з-за дзвярэй пачуўся гэтакі самы, як у Мальвіны, ну, абсалютна гэткі самы, нібы яна сама з сабой размаўляла, голас: «Цар Зямлі тут жыве? Мы па яго, яму а дзявятай раніцы на нараду».

А дзявятай раніцы ў панядзелак, як заўсёды па буднях, Тодару у міністэрстве фінансаў трэба было быць, дзе ніякай нарады сёння не планавалася. Дый не запрашалі яго ніколі ні на якія нарады, рэвізор — не такая пасада, каб на нарады яго запрашаць. Таму і сам ён здзівіўся, і Мальвіна здзівілася, не ведаючы, што сказаць. Нарэшце накінула на сябе халат, адчыніла дзверы: «Ну, заходзьце...» — і раптам закрычала ва ўсю ноч: «А каб вас у чыстым полі дзвярмі прышчаміла і гэтак яйцы патрушчыла, як вы мне клубніцы патрушчылі!..»

Тодар падумаў, што, з аднаго боку, Мальвіну можна зразумець: ягады даспявалі, яна праз пару дзён думала іх збіраць, а тут гэтая талерка, — але, з іншага боку, разбярыся спачатку, што за людзі, і ці людзі ўвогуле да цябе сярод ночы з'явіліся, а пасля ўжо ці кляні, ці язычок праглыні. На дзіва, начныя госці не пакрыўдзіліся, адзін сказаў голасам Мальвіны: «Мы ўзляцім — і клубніцы падымуцца», — а другі рассмяяўся: «А яйцаў у нас няма».

Значыць, не людзі.

Увайшоўшы ў пакой, госці доўга глядзелі на карціну «Рай», якую Тодар, уклеіўшы сябе ў ілюмінатар касмалёта пад надпісам «Цар Зямлі», павесіў на сцяну, потым зірнулі на Тодара, кіўнулі адзін аднаму, узялі Тодара пад пахі і панеслі з хаты.

— Наста! — паклікала Мальвіна! — Бацьку забіраюць! Развітацца выйдзі!

«Няхай забіраюць... вернуць, як пагуляюць...» — сонна пачулася з бакоўкі дачкі, якая ў нядзелю днём,

убачыўшы, што Тодар зрабіў з яе карцінай, павадзілася з ім, і цяпер Тодар падумаў пра дачку і жонку: «Во сямейка...» — ды тут Наста выскачыла на вуліцу ў адной начнушцы, убачыла касмалёт: «Як забіраюць? Куды?!. — і ўчапілася ў бацьку: — Не пушчу, пакуль не скажаце!..»

— Калі ласка, у нас жа не пытаўся ніхто, — голасам Насты сказаў бел-чырвоны, і аказалася, што ўзнікла небяспека, якая пагражае існаванню Сусвету, таму ўсіх цароў усіх планет збіраюць на сусветную нараду.

У Насты вочы вылупіліся.

— Ваў! Во сіла мастацтва!.. Але ж не бацька... — хацела яна, мусібыць, сказаць, што не Тодар, а Салівей цар Зямлі, ды перадумала. — Тады і я з вамі!

— Царэўнаў не запрашалі, — пахітаў галавой чырвона-зялёны. — Царская нарада.

— А што мне нарада! — збегаўшы па фотакамеру, рушыла да касмалёта Наста. — Я на экскурсію! Хіба царэўне на экскурсію нельга?

Чырвона-зялёны глянуў на бел-чырвонага, той пацепнуў плячыма: «На экскурсію царэўне, мусіць, можна, чаму не?..» — і Мальвіна не стала чакаць, пакуль ён перадумае. «А царыцы тым больш!» — адсунуўшы ўбок Насту, першая палезла яна ў люк лятаючай талеркі. — Што мне тут рабіць, калі ўсе клубніцы патрушчаныя?..»

Паляцелі ўсёй сям'ёй. Мальвіна, як была, у халаце, Наста, як была, у начнушцы, толькі Тодар паспеў накінуць вельветавую куртку і нацягнуць вельветавыя штаны. Няёмка ўсё ж: цар Зямлі ў споднім.

Першы, каго сустрэлі на планеце, дзе праводзілася сусветная нарада, быў Салівей.

— Махляр! — накінуўся ён на Тодара. — Фальсіфікатар! Лецішча маё забраў ды яшчэ карціну падрабіў! Пад цара Зямлі падстроіўся!..

І засвяціў Тодару ў скулу.

